МІНІСТЭРСТВА ВЫШЭЙШАЙ І СЯРЭДНЯЙ СПЕЦЫЯЛЬНАЙ АДУКАЦЫІ БССР

ГОМЕЛЬСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

*ВЫПУСК 10*

Мінск
Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна
1982

*УДК 808.26*

**Выдаецца з 1974 г.**



БЕЛОРУССКИЙ ЯЗЫК
Выпуск 10

Издательство Белорусского государственного университета им. В. И. Ленина Минвуза БССР и Госкомиздата БССР

*На белорусском языке*

Рэдактар Г. М. Шыдлоўская. Мастацкі рэдактар С. У. Балянок. Тэхнічны рэдактар А. Я. Максімава. Карэктар З. М. Машкевіч.

ИБ № 642

Здадзена ў набор 04.05.82. Падпісана да друку 10.11.82. АТ 05267. Фармат 84×108 1/32. Папера газетная. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 8,4. Ум. фарб.-адб. 8,66. Ул.-выд. арк. 8,44. Заказ 917. Тыраж 1000 экз. Цана 1 р. 30 к.

Выдавецтва Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна МінВНУ БССР і Дзяржкамвыдата БССР. 220048. Мінск, праспект Машэрава, 11. Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041. Мінск, Ленінскі праспект 79.

Б $\frac{4602000000-070}{М317-82}$ 46—82

## МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ ДЫЯЛЕКТНАГА СЛОЎНІКА ГОМЕЛЬШЧЫНЫ *

## Х

### (працяг, пачатак гл. у папярэднім выпуску)

ХРУ'ШЧЫК *м., кул.* хрушч. Бяры еж хрýшчык. Мая маці добра пячэ хрýшчыкі (Кароткавічы, Жлоб.); Спячы на снеданне хрýшчыкаў (Паганцы, Светл.+Асарэвічы, Браг.; Баравікі, Светл.; Валахоўшчына, Браг.; Вуглы, Галоўчыцы, Нар.; Дзяржынск, Заходы, Лельч.; Любань, Марозавічы, Б.-Каш.; Меркулавічы, Чач.; Мормаль, Жлоб.; Піркі, Браг.; Цешкаў, Нар.).

ХРЫБЕ́ТНІК *м., анат.* хрыбет. У свінні ўвесь хрыбéтнік у гразе (Ручаёўка, Лоеўск.); Дзядзька калом перабіў ваўку хрыбéтнік (Баравікі, Светл.+Антонаўка, Гом.; Дзям'янкі, Добр.; Залессе, Чач.; Неглюбка, Ветк.; Тураў, Жытк.; Холмеч, Рэч.; Юравічы, Калінк.). *Параўн.* хрэб.

ХРЫП *м.* горла. Узяў яго за хрып і давай калаціць (Чаплін, Добр.).

ХРЫ'ПЕТКІ *толькі мн.* вантробы. Ён упаў з хаты і адбіў сабе хры́петкі (Антонаў, Ельск.). *Параўн.* хры́пці *ў 2 знач.*

ХРЫПЕ́ЦЬ *незак.* рыпець. Як хораша хрыпіць снег пад нагамі (Стаўбун, Ветк.).

ХРЫ'ПЦІ *толькі мн.* 1. Кашаль. У мого старого такіе хры́пці велікіе, што ек стане хрыпаць, то отзываецца нешто ў сярэдзіне (Беразнякі, Жытк.). 2. *тое, што* хры́петкі. Так білі яго, што хры́пці адбілі (Махновічы, Маз.).

---

* Матэрыялы для слоўніка падрыхтавалі: Н. А. Старасценка (літару Ц), С. Г. Крупенька, А. А. Парукаў (Ч), В. А. Ляшчынская з удзелам В. В. Шур (распрацаваў 28 слоў) (Ш), А. А. Станкевіч, Н. А. Старасценка (Э, Ю, Я).

ХРЫШЧА́ТЫ *прым.* вышыты *(крыжам)*. Гэта хрышча́ты рушнік, а той вышыты насцілам (Усох. Буда, Добр.).

ХРЭБ *м., анат., тое, што* хрыбе́тнік. У кабана мясо смашнэ з хрэ́ба (Стадолічы, Лельч.).

ХРЭ'ШЧАНЫ *прым.* крыжавы. Хрэ́шчаным швом мы кухайкі сшывалі (Ліпляны, Лельч.).

ХРЭ'ШЧЫК *м., тое, што* хлябо́к. З гэтага цеста яшчэ хрэ́шчык будзе (Каро́ткавічы, Жлоб.).

ХРЭ'ШЧЫКАМ *прысл.* крыжыкам. Раней мы дык толькі хрэ́шчыкам і вышывалі (Кароткавічы, Рэч.).

ХТОЛЬ *займ.* хтосьці. Мо хтоль будзе іці ў сяло, то ўкіне пісьмо ў яшчык (Галубіца, Петр.).

ХУДАДУ'Т *м., заал.* удод. Задудукаў худаду́т ужэ (Асарэвічы, Браг.). *Параўн.* хухо́д.

ХУДА́ЦЬ *незак.* худзець. Ой, Міша, ты апяць худа́ць пачаў (Усох. Буда, Добр.).

ХУДЗЕ́ННЫ *прым., параўн. ст. да* худы. Прыехаў адтуль худзе́нны, адны маслы прывёз (Усох. Буда, Добр.). *Параўн.* худля́венькі.

ХУ'ДЗЕНЬКА *прысл., памянш. да* худа. Як цябе, мамка, ху́дзенька жыць на чужбіне, так і мне (Піркі, Браг.).

ХУДЛЯ'ВЕНЬКІ *прым. пар. ст. да* худлявы; *тое, што* худзе́нны. У нас толькі адзін Васіль худля́венькі, а то ўсе поўныя (Палессе, Чач.).

ХУДО́БА 1. *зборн.* жывёла. Ідзе с пашы худо́ба (Юравічы, Калінк.); Худо́бы ў нас многа (Астрагляды, Браг.); Трэ іці худо́бу падаглядаць (Асарэвічы, Браг.+Аравічы, Хойн.; Астрагляды, Браг.; Белы Пераезд, Петр.; Дзяміды, Ельск.; Запясочча, Маз.; Кажушкі, Хойн.; Камаровічы, Петр.; Каравацічы, Рэч.; Кароткавічы, Жлоб.; Лядцы, Светл.; Маканавічы, Рэч.; Навінкі, Калінк.; Неглюбка, Ветк.; Нова-Мазалаў, Жлоб.; Патапаўка, Б.-Каш.; Піркі, Браг.; Славань, Светл.; Стадолічы, Лельч.; Углы, Браг.). *Параўн.* худо́біна. 2. худы. Валя худо́ба: у дзярэўню замуж ёй нельга іці (Баравікі, Светл.+Гарадзея, Раг.).

ХУДО́БІНА *ж., тое, што* худо́ба *ў 1 знач.* Такая ўрэдная худо́біна. Як бачыш у шкоду ўлезе (Баравікі, Светл.+Аравічы, Хойн.).

ХУДО́К *м.* дрожкі. Закладвай, сынку, худо́к, паедом у Жытковічы (Бялёў, Жытк.).

ХУНДА́МЕНТ (ХУНДА́МІНТ) *м.,* фундамент. Хун-

да́менты кладуцца пат хаты (Крынкі, Рэч.); Узвялі новы хунда́мінт (Асінаўка, Чач.+Р. Шлягіна, Ветк.).

ХУ'НДЗЯ (ХУ'НЬДЗЯ) *ж., тое, што* хіндзя (хіньдзя). Ад ху́ньдзі аж трасло (Піркі, Браг.+Даршэ́вічы, Петр.). *Параўн.* хінца (хіньця), хо́ндзя.

ХУНТО́ЎКА I *ж., бат.* груша. Сёлета ў нас хунто́ўкі добра ўрадзілі (Насовічы, Добр.+Стадолічы, Лельч.).

ХУНТО́ЎКА II *ж.* селядзец. Добрай у банках хунто́ўкі купілі (Неглюбка, Ветк.).

ХУРАВА́ЦЬ *незак.* кіраваць *(канём)*. Нядобра хурава́ў, у корч уехалі (Рубча, Петр.).

ХУТНЕ́Й (ХУТНЭ'Й) *прысл.* хутчэй. Хутнэ́й жа ідзі суды (Рудня Антонаўская, Калінк.).

ХУХА́Ч *м., заал.* глушэц. Хуха́ч крычыць: «Ху-ху, ху-ху»,— значыць холадна будзе (Юравічы, Калінк.).

ХУХО́Д *м., тое, што* худаду́т. Хухо́д крычыць: «Ду-ду-ду» (Н. Дуброва, Акц.); Хухо́д нясецца па два яечкі (Лядцы, Светл.).

ХУХАТА́ЦЬ *незак.* кугакаць *(пра саву)*. Сава ўсю ноч хуху́ча, не заснеш (Навінкі, Калінк.).

ХЫМАЗА́ *ж., зборн.* хмызняк. У лесі бывае такая хымаза́, што пройці нельга (Бялёў, Жытк.).

## СКАРАЧЭННІ І УМОЎНЫЯ АБАЗНАЭННІ

### *1. Назвы раёнаў Гомельшчыны*

Акц.— Акцябрскі; Б.-Каш.— Буда-кашалёўскі; Браг.— Брагінскі, Ветк.— Веткаўскі; Гом.— Гомельскі; Добр.— Добрушскі; Ельск.— Ельскі; Жлоб.— Жлобінскі; Жытк.— Жыткавіцкі; Калінк.— Калінкавіцкі; Карм.— Кармянскі; Лельч.— Лельчыцкі; Лоеўск.— Лоеўскі; Маз.— Мазырскі; Нар.— Нараўлянскі; Петр.— Петрыкаўскі; Раг.— Рагачоўскі; Рэч.— Рэчыцкі; Светл.— Светлагорскі; Хойн.— Хойніцкі; Чач.— Чачэрскі.

### *2. Граматычныя і стылістычныя паметы*

Абрад.— абрадавае, абразл.— абразлівае, аг.— агульны род, анат.— анатамічнае, арх.— архітэктурнае, астр.— астранамічнае, бат.— батанічнае, вет.— ветэрынарнае, выкл.— выклічнік, груб.— грубае, дзеепрым.— дзеепрыметнік, ж.— жаночы род, заал.— заалагічнае, зак.— закончанае трыванне, зневаж.— зневажальнае, іран.— іранічнае, крав.— кравецкае, кул.— кулінарнае, м.— мужчынскі род, памянш.— памяншальнае, перан.— пераноснае.

# Ц

ЦАБА́РКА (цыба́рка, цыбе́рка) *ж.* цэбар. Поўную цаба́рку выпіў цялок пойла (Хальч, Ветк.); Вазьмі цыба́р-

ку і схадзі па ваду (Дубраўка, Добр.); Цыбе́рка ў нас страшно цячэ, другую павесіць трэба (Буйнавічы, Маз.); На калодзезі цыбе́рка адарвалася (Зацішына, Б. Каш.).

ЦАБУ́ЛЬНІК (ЦЫБУ́ЛЬНІК) *м., зб., бат.* пер'е *(цыбулі)*. Цабу́льнік дык вот такі вырас (Ніўкі, Добр.); На што ты цыбу́льнік абіраеш? (Харомцы, Акц.).

ЦАВІ́НА (ЦЫВІ́НА) *ж., зб., бат.* 1. цяўнік. Пазбірай цаві́ну ў стагі (Новая Гута, Гом.); 2. сцёблы. Цыві́на такая бальшая ў гэтых кветак (Бялёў, Жытк.).

ЦАДЗІ́ЛАК (ЦАДЗІ́ЛОК) *м.* цадзілка. Цадзі́лак вісіць на гвоздзіку ў сенцах (Запясочнае, Лельч.); Помуй цадзі́лок, бо трэба будзе заўтра цадзіць малако (Ляскавічы, Петр.); Я молоко праз цадзі́лок цаджу (Бялёў, Жытк.).

ЦА́ЛЬНЫ *прым.* цэлы. Калгаснікі ца́льны дзень палолі буракі (Новая Гута, Гом.); У вайну мы ца́льную зіму жылі ў зямлянках (Шырокі, Б.-Каш.).

ЦАЛЯ́ЦЬ *незак.* імкнуцца, старацца. А як папросіць хто, цаля́ем крошку даць, хоць с хунцік (Палессе, Чач.); Хазяін яе, о хазяін: усё цаля́е ў двор што-нібудзь прыцягнуць (Стаўбун, Ветк.).

ЦАМЯНТО́ВЫ *прым.* цэментавы. Як ні кажы, то цамянто́вы калодзезь луччай, як дзераўляны (Рудня Барыцкая, Лоеўск.).

ЦА́МРА (ЦЭ́МРА) *ж.* зруб *(калодзежны)*. Ца́мра даўно ўжо падгніла (Усох. Буда, Добр.); Калодзеж абрубілі цэ́мрай (Холмеч, Рэч.).

ЦА́ПКА I *ж., с.-г.* матыка. Ца́пка да таго вострая, што са́ма цапкуе (Кабанаўка, Жлоб.); Суседка, пазыч сваёй ца́пкі, пайду бульбу палоць (Баравікі, Светл.); Нада дастаць ца́пку да пачынаць падбіваць бульбу (Барталамееўка, Ветк.; Паганцы, Светл.+Антонаўка, Добр; Забалацце, Раг.).

ЦА́ПКА II *ж.* вочка *(у кроснах)*. Не так у ніт ніточку ўвядзеш, на одну ца́пку возьмеш дзве ніткі (Дарашэвічы, Петр.).

ЦАПКАВА́ЦЬ *незак., с.-г.* акучваць. Пайшла цапкава́ць бульбу і цапку зламала (Забалацце, Раг.).

ЦА́ПКІ *толькі мн.* жэрдкі *(у ёўні для сушкі збожжа)*. Цапкі́ ў еўні паламаліся, пастроіць няма каму (Марозавічы, Б.-Каш.+Бывалькі, Лоеўск.; Дземяхі, Рэч.; Дзям'янкі, Добр.; Кароткавічы, Жлоб.); Падгнілі цапкі́, трэба класці новыя (Бабовічы, Гом.); На ца́пкі

лён расстаўлялі, каб сушыўся (Малыя Аўцюкі, Калінк.; Гармавічы, Жлоб.). *Параўн.* цапнік.

ЦАПЛЕ́ЙКА *ж.* чапяла. Плахая цаплейка, не бярэ добра скавараду (Замосце, Калінк.).

ЦАПНІ́К *м., тое, што* ца́пкі. У гумне абмалочаныя снапы ставім на цапнік (Усох. Буда, Добр.).

ЦАПО́К *м.* 1. клін *(у ткацкім станку для ўмацавання навоя)*. Цапок было згубіўся, чуць я найшла яго (Халочча, Чач.); У навоі кружок, у кружку дзірачкі, цапок утыкаецца ў дзірачку, і навой не разматваецца. На яровачках да цапка вешаюцца ніты (Хізы, Ветк.); 2. палка, кіёк. А ў мяне́ цапок у руках буў (Быч, Карм.); Садзіцеся, цапок свой тут во пастаўця (Дубраўка, Добр.; Саўгасная, Б.-Каш.); Насцёбала яго добра цапком (Палессе, Чач.+Барталамееўка, Ветк.; Салтанаўка, Б.-Каш.).

ЦАРЫ́К *м.* вільчак. Ён залез на самы царык ды чуць не зваліўся (Янова, Ветк.).

ЦА́РЫНА *ж., с.-г.* папар. Вочынь багата аставілі ца́рыны за дзярэўняй (Чарнейкі, Рэч.).

ЦА́РЫНЯ *ж.* вароты. Адкрылі ца́рыню, і калёса ўехалі ў двор (Капань, Рэч.).

ЦАХЛІ́ЦЬ *незак.* 1. брахаць. Калі сабака цахліць — значыць добрая (Аравічы, Хойн.); На лісу да на зайца сабака цахліць (Ручаёўка, Лоеўск.); 2. *перан.* абгаворваць. Схадзі й ты памажы. Хоць людзі цахліць не будуць (Старая Рудня, Жлоб.).

ЦАХО́ЎКА *ж.* паўлітра. Ціпер паўлітра, а тады цахоўка была (Барталамееўка, Ветк.); Прынесла цахоўку малака (Заходы, Рэч.; Марозавічы, Б.-Каш.).

ЦВЕ́НЬКАЦЬ *незак., зневаж.* гаварыць *(абы-што)*. Яна табе як пачнець цвенькаць, дак ты толькі слухай яе (Антонаў, Лоеўск.).

ЦВЕНЯ́ *н.* кураня. Кура вывела цвенят (Махнавічы, Маз.). *Параўн.* цыпля́.

ЦВЕРАЗІ́ЛАЎКА *ж.* выцвярэзнік. Добрая цверазілаўка, хто п'яны, хутка працвярэзіцца (Зарэчча, Жлоб.).

ЦВЕТНІЧО́К *м.* вазон. Цветнічкоў няма, а так бы рассадзіла шчэ цвятоў (Кароткавічы, Жлоб.).

ЦВІ́ГНУЦЬ *зак.* скокнуць. Як малыя былі, як цвігнем, дык ледзь падымемся (Піркі, Браг.).

ЦВІНТАРЭ́ЙКА *ж., бат.* цвінтарэй. Цвінтарэйкі растуць у агародах, палісадніках (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* цэнта́ўра.

ЦВІРКІ *прым.* шустры, жвавы. От цвіркі малы ў мяне (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* цікáвы *ў 2 знач.*

ЦЕ́ЛЕСО *н.* тулава *(чалавека, жывёлы)*. Вон хоць і молоды кабан, але добры, бач, еке цéлесо доўге (Стадолічы, Лельч.).

ЦЕ́ЛЬБУХ *м.* трыбух *(начынены мясам або ліверам)*. Глядзіце, каб цéльбух не рассыпаўся (Грушаўка, Нар.).

ЦЕ́ЛЬБУХІ *мн.* вантробы. Усё, што там унутры, то і цéльбухі (Піркі, Браг.+Стадолічы, Лельч.).

ЦЕМЯНІЦА (ЦЕМЕНІЦА) *ж.* цемя. Цеменіца — то ж спeрадзі ў галаве (Піркі, Браг); Як дзіця малое, дык цемяніцу нада глядзець і глядзець (Усох. Буда, Добр.).

ЦЕ́НЕТА (ЦЕ́НЕТО) *н., рыб.* цянёты. От каб цéнето нове на мою лагерню, то зловіў бы што-небудзь (Мілашэвічы, Лельч.).

ЦЕ́ПЕРСЯ (ЦЕ́ПЯРСЬ) *прысл.* даўно. А я, бабачкі, ці цéперся ўжо ўсе гряды папляжыла (Радкоў, Акц.); Цéпярсь ён пашоў (Пракопаўка, Добр.). *Параўн.* цівóся.

ЦЕРУХА́ *ж.* пацяруха. Засталася не салома, а адна церухá непатрэбная (Казацкія Балсуны, Ветк.).

ЦЁСАЧКА (ЦЁСОЧКА) *ж., памянш. да* цёска. Найдзі міне тоненьку цёсачку (Углы, Нар.).

ЦЕ́СЦЯ *ж.* цешча. Мая цéсця такая харошая была (Лукі, Жлоб.).

ЦЕ́ЧКА *ж.* чарада *(ваўкоў)*. Бачыў, цéчка ваўкоў бегла, калі буў у лесе (Бабовічы, Гом.; Холмеч, Рэч.); Як паглядзеў я на ету цéчку, да як спугаўся, і цяпер не па сабе (Ручаёўка, Лоеўск.).

ЦЁМНАЧЫ *прысл.* поначы. Што ты цёмначы там калупаў? (Прудок, Калінк.); Дзе ты цягаешся цёмначы? (Жураўлёўка, Добр.; Ямпаль, Рэч.+Макарычы, Міхедавічы, Петр.).

ЦЁНГЛЯ *прысл.* заўсёды. Насця цёнгля ў нас сядзела бувало (Буйнавічы, Лельч.).

ЦЁСКА *ж.* трэска. Ганка, пазыч некалькі цёсак, бо нельга распаліць у печы (Антонаў, Ельск.); Цёсак назбірала і дроў ні паліла (Прудок, Калінк.).

ЦІВО́СЯ *прысл., тое, што* цéперся. Цівóся гэта было (Капань, Рэч.); Ён дзяржыць кнігу гэтую ўжо цівóся, а ўсё ніяк не прынясе (Хвойнае, Хойн.); Яно правільна, а я цівóся шчытаю (Заходы, Рэч.).

ЦІГРА *ж.* тыгрыца. Я не бачыў цігру ў звярынцы (Дубраўка, Добр.).

ЦІКА́ВА I. *прысл.* асцярожна. Прыпадымі занавеску ціка́ва (Бялёў, Жытк.).

ЦІКА́ВА II. *прысл.* умела, па-майстэрску. Ты уху зварыла ціка́ва (Бялёў, Жытк.).

ЦІКАВА́ЦЬ *незак.* сумаваць. Даўно па табе цікава́ў (Бялёў, Жытк.).

ЦІКА́ВЕНЕЧКА *прысл., памянш. да* ціка́ва I. Ідзі ціка́венечка, не ўпадзі (Бялёў, Жытк.).

ЦІКА́ВЫ *прым.* 1. прыгожы. Яна дужа ціка́вая дзяўчына (Хвойнае, Хойн.). 2. *тое, што* цвіркі. Аўдзей — чалавек ціка́вы, гарыць работа ў яго руках (Астрагляды, Браг.).

ЦІКА́ВЫ *субст.* злодзей. Летась ціка́вы ў мяне ўкраў шэсць хустак шарсцяных (Бялёў, Жытк.).

ЦІКА́ЎКА *ж.* гатунак *(бульбы)*. Трэба прадаць ціка́ўку (Пучын, Браг.).

ЦІМАФЕ́ЙКАВЫ *бат., прым. да* цімафееўка. Ета сена цімафе́йкавае ў нас у бункер завозяць (Піркі, Браг.).

ЦІМАШЫ́ЦЦА *незак.* мроіцца. У галаве ў чалавека бывае цімашы́цца (Усох. Буда, Добр.).

ЦІ́НА *ж., бат.* націна. На сонцы з гароху ціна пачынае жаўцець (Даманавічы, Калінк.).

ЦІПЕ́Ц *м., бат.* сівец. Загнаў кароў на ціпе́ц, хацеў, каб наеліся (Макарычы, Петр.).

ЦІ́РКА *ж.* цёрка. Ці́рка была новая (Дзянісавічы, Калінк.).

ЦІРЛЮ́К *м., заал.* цецярук. Ціpлюкі́ — птушкі ладныя (Палессе, Чач.).

ЦІ́ТАЎКА *ж., заал.* арэхаўка. Ці́таўка — такая сівенькая птушачка з дліным прыгожым хвастом (Юравічы, Калінк.).

ЦІ́ФУС *м., мед.* тыф. Бацько памёр із ці́фусу (Бялёў, Жытк.).

ЦМАГУ́ЛЬ *выкл. да* цмыгаць. Я бацінчкі паставіла і сама бокам цмагу́ль з двара (Быч, Карм.).

ЦМЫ́ГАЦЬ *незак.* скакаць. Ну, цмы́гай, а то ў канаву ўкіну (Задуб'е, Раг.); Ванька, цмы́гай цераз ручай (Майскае, Жлоб.).

ЦМЫК *м.* чалавек *(худы)*. Цмык ты, ні ясі нічога (Зарэчча, Жлоб.).

ЦМЯН *м., бат.* кмен. Цмян сухі такі, цветочкі ў его кучкамі цветуць (Ручаёўка, Лоеўск.); А во ета траўка, як цмян, пахне (Піркі, Браг.). *Параўн.* цьмен (цьмень, цьмінь).

ЦО́ДНІК *м., кул.* аладка. Дзеўкі, хадземце снедаць цо́днікі — вельмі смачныя (Грушаўка, Нар.).

ЦОК *м., кул.* тлушч *(растоплены)*. Дзеці выцапалі скавараду цо́ку (Антонаў, Ельск.).

ЦО́КНУЦЬ *зак.* схапіць. А ён мяне як цо́кне за руку (Піркі, Браг.).

ЦУ́ГАЛКА *ж., анат.* перадплечча. Месіш цеста — рукі ў муке, цу́галкі так і абсыпаны, нібы снегам (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* цу́лка.

ЦУГЛІ́НА *ж.* спражка *(на ашыйніку)*. Купіў ашыйнік, да не бачу, што цуглі́на слабая (Кароткавічы, Жлоб.).

ЦУДЛІ́ЦЬ *незак., зневаж.* піць *(прагна)*. У хляве пастануць цяляты і з карыта пойла цудля́ць (Усох. Буда, Добр.).

ЦУКО́Р'Е *н., зборн., бат.* цыкорыя. То калісьці ж і я цуко́р'е варыла (Юравічы, Калінк.).

ЦУЛА́ГА *ж., спец.* разец *(рубанка)*. Ось гета пласцінка — цула́га называецца — падсоўваецца і высоўваецца (Юравічы, Калінк.).

ЦУ́ЛКА *ж., анат., тое, што* цу́галка. Ужо другі год ад етай вот цу́лкі спакою нема, пухне і пухне (Усохская Буда, Добр.).

ЦУ́ПКІ (ЦУ́БКІ) 1. *прым.* жорсткі, цвёрды. Вяроўка цу́бкая, як з дроту ўсядно (Кабанаўка, Жлоб.; Жгунь, Добр.); Боты бацькавыя сталі цу́бкія, мо каб іх чым памазаў (Антонаў, Ельск). 2. моцны. Ён такі цу́пкі хлопец (Усох. Буда, Добр.).

ЦУРБА́К *м.* палена. Наш дзед прынёс у хату абярэмак сосновых цурбако́ў (Амелькаўшчына, Хойн.).

ЦУРБА́ЛКА *ж.* гузік. Прышыла цурба́лку ў сарочку (Хвойнае, Хойн.).

ЦУ́РКА *ж., бат.* сцябло *(сланечніка)*. Як павыганяе тыя цу́ркі, дык роўныя са мной (Хізы, Ветк.).

ЦУРКО́М *прысл.* ручаём. Бач, Палажко, як цурко́м пот бяжыць з мяне (Перароў, Жытк.).

ЦУ́РЫ́ *толькі мн.* цура. Раней, бывала, здзелаіш етых цу́раў, пад'ясі ды і на вечарынку (Хізы, Ветк.); Штосьці мне цуро́ў захацелася (Барталамееўка, Ветк.; Калінічы, Нар.). *Параўн.* цюра́.

ЦЫБА́РА *ж.* вядро *(калодзежнае)*. Цыба́ра ў нашым калодзізе дзеравяная (Усох. Буда, Добр.). *Параўн.* цыба́рка.

ЦЫБА́РКА *ж., памянш. да* цыба́ра. Вядро ў нас за-

вуць цыба́ркай, ім ваду чэрпаюць з калодзежа (Усох. Буда, Добр.).

ЦЫ'БАЧКА *ж.* чарачка *(50—75 г)*. Гарэлку цы́бачкай мералі (Дуброўка, Добр.).

ЦЫБУ'ЛЬНІК I. *м., зборн.* шалупінне *(цыбулі)*. Перад пасхай собіраюць цыбу́льнік і яічкі красяць (Бялёў, Жытк.).

ЦЫБУ'ЛЬНІК II. *м.* вецер *(пераменны)*. Ты знаеш, які етый цыбу́льнік надакучнэй (Быч, Карм.).

ЦЫВЕНЯ' *н.* куранé. Кура цівеня́та вувела, дак кот половіну пэрэловіў (Стадолічы, Лельч.). *Параўн.* цвеня́.

ЦЫГА́НАЧКА I *ж., бат., памянш. да* цыганка II. Цыга́начкі — такія маленькія красненькія яблачкі, да позняй восені сядзяць на яблані (М. Аўцюкі, Калінк.).

ЦЫГА́НАЧКА II *ж., бат.* маргарытка. Цыга́начкі бываюць беленькія, красненькія, цвітуць хорашэ (Дубраўка, Добр.).

ЦЫГА́НКА I *ж.* шаршатка. Цыга́нка — ета самая большая іголка (Дубраўка, Добр.); Дзесь згубіла цыга́нку (Халочча, Чач.).

ЦЫГА́НКА II *ж., бат.* гатунак *(яблыкаў)*. Цыга́нкі — яблыкі красныя, бліскучыя, вельмі харошыя (Грушаўка, Нар.).

ЦЫГА́ННІК *м., бат.* мар'яннік. Заткнула ў сцяну пучок цыга́нніка, хай сохне (Неглюбка, Ветк.).

ЦЫГА́НКІ *толькі мн., кул.* страва *(з тушанай бульбы і льнянога семя)*. Вумай з печы гаршок, я наварыла сённі цыга́нак (Радкоў, Акц.).

ЦЫГА́НСКІ *прым., перан.* цёплы *(сонечны дождж)*. Добры цыга́нскі дожджык прайшоў (Дарашэвічы, Петр.).

ЦЫ'ГАЦЬ *незак., экспр.* скакаць, быць гарэзай, непаседай. Васілько не цы́гай, поседзі спокойно трохі (Верасніца, Жытк.).

ЦЫ'ГЛЯ *ж., перан.* жанчына *(худая)*. Ты такая зрабілася цы́гля (Перароў, Жытк.). *Параўн.* цы́ля.

ЦЫ'КЛА *ж., спец.* цыкля. Цы́кла жалезная, заточаная завусеніцамі (Ламавічы, Акц.).

ЦЫКНУ'ЦЦА *зак.* хіснуцца, хістануцца. Цішына, і галінка не цыкне́цца (Турок, Петр.).

ЦЫ'ЛЯ *ж., тое, што* цы́гля. На ету цы́лю ніхто і не глядзіць (Каменка, Маз.).

ЦЫПЛЯ' *н., тое, што* цвеня́. Гэткое неўдалое цыпля́ папалася. А тое цыпля́ ўлезла ў траву, дый піскае (Бялёў, Жытк.).

ЦЫПЛЯ́ТНІЦА *ж.* кураводка. Цыпля́тніца з куранятамі ходзе па градзе (Баравікі, Светл.).

ЦЫ́РКАЦЬ I *незак.* цвыркаць. Цыркун урэда ні дзелае, а толькі цы́ркае (Бабовічы, Гом.).

ЦЫ́РКАЦЬ II *незак.* даіць *(карову).* Пайду ўжо, трэба цы́ркаць карову (Усох. Буда, Добр.).

ЦЫРКЛЁЎКА *ж., спец.* лобзік. Цырклёўка вузенькая, з то́нкім пярэднім канцом (Усох. Буда, Добр.); Німа дзе купіць цырклёўку (Засінцы, Ельск.).

ЦЫРУВА́ЛЬНІЦА *ж.* цыравальшчыца. Та́я, што штопаець наскі, дык цырува́льніцай завецца (Ламавічы, Акц.).

ЦЫ́ТРА *ж., зневаж.* жанчына *(непрыгожая).* От нівестку прывеў — цы́тра нека (Каменка, Маз.).

ЦЬМЕН (ЦЬМЕНЬ, ЦЬМІНЬ,) *м., бат., тое, што* цмян. У мяне на гародзе багата цьме́ну расце (Дубраўка, Добр.); А цьмень жоўтым цветам цвіце, а лісцікі такія сівенькія (Аравічы, Лоеўск.).

ЦЭ́БРЫК *м., памянш. да* цэ́бар. Цэ́брыка ў хаце ня было (Уваравічы, Б.-Каш.).

ЦЭ́ДЖАНЫ *дзеепрым.,* працэджаны. Цэ́джанае малако мы ў ладыжку зліваем (Марозавічы, Б.-Каш.).

ЦЭЙ *займ.* той. Цэй сын у іх старшы (Грушаўка, Нар.).

ЦЭНТА́ЎРА *ж., бат., тое, што* цвінтарэ́йка. Цэнта́ўра розавінькім цвіце, як смолка, ена ат кашлю (Холмеч, Рэч.).

ЦЭНТРА́ЛКА *ж. стрэльба (цэнтральнага бою).* Кагда затвор у цэнтры, то ета цэнтра́лка (Ручаёўка, Лоеўск.).

ЦЭР *м., бат.* цэра *(трут).* Во які цэр разроссе (Асінаўка, Чач.).

ЦЭ́РКВА *ж.,* царква. Як была ў нас цэ́рква, мы малыя каждую нідзелю бегалі прачашчацца (Бабовічы, Гом.); У нас зараз е цэ́рква, але ў ёй ужэ не служаць даўно (Баравое, Лельч.); Ціпер у цэ́ркву перасталі хадзіць (Чарняцін, Б.-Каш.).

ЦЮ́НІК *м., памянш.-ласк.* парася. А ў нас такі хорошэнькі цю́нік, беленькі і вішчыць (Глінка, Стол.+Прудок, Калінк.).

ЦЮ́РНУЦЬ *зак.* з'есці. Сёдня так цю́рнула сялёдку, аж паздаравела (Святое, Рэч.).

ЦЮ́РЫЦЬ *незак. да* цюрнуць. Што так цю́рыш, рад, што дарваўся? (Быч, Карм.).

ЦЮ'ХА *аг.* ціхоня. Ён такі цюха, што хоць вяроўкі з яго ві (Горваль, Рэч.).

ЦЮ'ЦІК *м.* бервяно *(кароткае)*. Цы то ў шутку, цы не, толькі ў нас плотнікі цюцікам завуць кароткія бярвенні (Косаль, Карм.).

ЦЮЦЮ'Н *м.* тытунь. Пайду ў магазін па цюцюн (М. Аўцюкі, Калінк.).

ЦЯГ *м.* 1. вяроўка. Вось цяг ляжыць (Быч, Карм.). 2. пута. Падай цяг, надо спутаць карову (Пабеда, Ветк.).

ЦЯГА́НКА I *ж., рыб.* снасць (рыбалоўная). А ці рыжоўка, ці цяга́нка — адно і тое ж (Аравічы, Хойн.).

ЦЯГА́НКА II *ж.* карова *(блудная)*. Мая цяга́нка зноў у шкоду зайшла (Грабаўка, Гом.).

ЦЯГУ'НЫ (ЦЕГУ'НЫ) *толькі мн.* гатунак *(бульбы)*. Цегу́ны плоха вельмі разварваюцца (М. Аўцюкі, Калінк.).

ЦЯГУНЫ' *толькі мн., кул.* буракі *(з цыбуляй)*. Трэба пакрышыць цягуны́ ў вінігрэт (Залессе, Чач.).

ЦЯКЛІ́ВЫ *прым.* дзіравы. У мяне такая ўжо цяклівая хата, што няма спасу, вада льецца прама на галаву (Хутар, Светл.).

ЦЯКУ'Н *м., бат.* мак-самасей. Цяку́н сам узыходзіць, паспевае, вецер хістае — ён і сеецца (Холмеч, Рэч.).

ЦЯЛЁШ *м.* калода. Разрэзалі цялёш на дошкі (Вышалаў, Петр.).

ЦЯЛІ́ЦА (ЦЕЛІ́ЦА) I *ж.* цёлка. Павяду цяліцу к віцінару (Бялёў, Жытк.); Трэба ў Каці целіцу купіць сабе на развод, ена ад вельмі добрае пароды (Аравічы, Хойн.).

ЦЯЛІ́ЦА II *ж.* ёлка-сухастоіна. Цяліц у ельнічку багата ў нас е (Бялёў, Жытк.).

ЦЯЛІ́ЧКА *памянш. да* цяліца I. Тая цялі́чка вырасла ды перазімавала (Піркі, Браг.); Наша карова ацялілася, прывяла чорную цялі́чку (Юравічы, Калінк.; Радкоў, Акц.).

ЦЯ'МКАЦЬ *незак.* чаўкаць. Хваціць табе ця́мкаць, пара ўжэ добрэ навучыцца есці (Будкі, Нар.).

ЦЯ'МКІ *прым.* кемлівы. Ён такі ця́мкі... Па сяле ні найдзіш такога (Усох. Буда, Добр.). *Параўн.* цямлівы.

ЦЯМЛІ́ВЫ *прым., тое, што* ця́мкі. Цямлівы буў чалавек мой (Ламавічы, Акц.).

ЦЯПЛЁННА *прысл.* горача. Цяплённа було ўчора (Усох. Буда, Добр.).

ЦЯРМО́ЦЦЕ *н., зборн.* атрэп'е. Пакуллем і цярмо́цацем абкладаюць скабку (Дземяхі, Рэч.).

ЦЯРНІЦА (ЦЕРНІЦА) I. *ж.* жанчына *(мяльшчыца)*. Цярніца нацёрла дзве вязкі лёну (Дземяхі, Рэч.); Сабіраюцца церніцы і так дней сем-восем памагаюць адна адной (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* цярэ́йка.

ЦЯРНІЦА (ЦЕРНІЦА) II *ж.* це́рніца. Бяры церні́цу, пойдам на сцелішча лён церць (Бялёў, Жытк.).

ЦЯРНО́ВЫ *прым.* шарсцяны. Надзену на празнік цярно́вы хвартух (Аравічы, Хойн.).

ЦЯРНО́ЎКА (ЦЕРНО́ЎКА) *ж.* хустка *(шарсцяная)*. А я прыбралася, цярно́ўку абапнула і пайшла ў лаўку (Цясны, Лоеўск.); Мне дачка цярно́ўку красівую прыслала (Кавака, Браг.); Каб дзе чорну церно́ўку купіў, бела ў міне ўжэ е (Мілашэвічы, Лельч.).

ЦЯРЭ'ШКА *м., заал.* бабачка. Такія харошыя цярэ́шкі лятаюць, паглядзі, Васілёк (Крупка, Маз.).

ЦЯСЦЯ'НЫ *прым.* ацесліўы. Сёння хлеб у мене ўдаўся цясця́ны (Майскае, Жлоб.).

## Ч

ЧАБО́ЦІКІ *толькі мн., бат.* дэкаратыўныя кветкі. Чабоцікі як вырастуць, ты бываюць сінія (Марозавічы, Б.-Каш.).

ЧАБУХНУ'ЦЦА *зак.* спатыкнуцца і ўпасці. Я ішоў лесам уночы ды так чабухну́ўся (Буйнавічы, Лельч.).

ЧАВУ'Н *м.* чыгун. Не асталось парожняга чаву́на. Купіла чаву́на дай малы аказаўся. Хватыт свіням тры чаву́ны картоплі (Галоўчыцы, Дзяржынск, Нар.). *Парайн.* ча́ус, чуга́н.

ЧАКУ'ХА *ж.* доўбня. Подай мне там чакуху (Дзёрнавічы, Нар.); Чаку́хою цяпер нічога не забіваюць. Тэблы ў сцяне сякераю або малатком забіваюць, а чаку́ха валяецца нейдзі на хаці (Людзяневічы, Жытк.); Чаку́хай таксама можна забіваць кліны (Бялёў, Жытк.+Чаплін, Лоеўск.).

ЧАЛАВЕ́ЧКА *н., анат.* зрэнка. Мяне пчала ўкусіла адзін год у самае чалаве́чка, дык думала аслепну (Марозавічы, Б.-Каш.).

ЧАЛО́ *н., толькі адз.* насенне. Не чапай, гэта ж я на чало́ аставіла (Пучын, Браг.).

ЧАМАЛУ'ДЗІЦЬ *незак.* выдумляць. Што ты, дзеўка, чамалу́дзіш мне (Быч, Карм.).

ЧАПАРЛІ́ВЫ *прым.* ганарысты. І ў каго ён такі ўдаўся чапарлі́вы? (Злодзін, Маз.).

ЧА́ПАЦЬ *незак.* хадзіць. Чапае па двары, як дзед стары. (Казацкія Балсуны, Ветк.).

ЧАПЕ́ЛЬКА *ж., спец.* зашчапка. Ні чапляйся за чапе́льку, бо сарвеш (Бялёў, Жытк.).

ЧАПЕ́Ц *м., толькі адз.* здор. Чапец — ета значыць здор, жыр у кішках, па-нашаму (Халочча, Чач.).

ЧАПЁЛКА *ж., буд.* бэлька. Зверху на стаўбы кладуць чапёлкі (Каравацічы, Рэч.).

ЧАПЁЛКІ *толькі мн.* вільчак *(на крышы),* апоўзіны *(на стозе).* І ў хаце, на крышы, і на стог кладзём чапёлкі (Дубраўка, Добр.).

ЧАПЛЕ́ЙКА *ж.* чапяла. Возьмі ў кочорэжне чапле́йку і выймі сковороду з салом (Дзяржынск, Нар.). *Параўн.* ча́пліца, чапляя́.

ЧА́ПЛІЦА *ж., тое, што* чапле́йка. Вось гэта ў нас ча́пліца, шчо скавараду бяром (Усох. Буда, Добр.). *Параўн.* чапляя.

ЧАПЛЯЯ́ *ж., тое, што* чапле́йка. У мяне чапляя́ харошая, яе яшчэ некалі пакойны Сямён з дуба здзелаў (Еланы, Светл.+Бялёў, Жытк.; Дарашэвічы, Камаровічы, Петр.).

ЧАПЯНЯ́ТЫ *толькі мн.* кураняты. Той год былі ў мяне чапяня́ты, ды дробненькія такія (Бялёў, Жытк.).

ЧАРАВА́ТАЯ *прым.* цяжарная. Маня ўжо трэцім чарава́тая. (Слабада, Рэч.+Бялёў, Жытк.; Лядцы, Светл.).

ЧАРАВЕ́ЛЬ *м., зневаж.* чалавек *(пузаты).* Добра жывецца, дык бач, які стаў чараве́ль (Белы Пераезд, Петр.).

ЧАРАДНІ́К *м.* пастух *(чарговы).* Сёння наймаюць чарадні́ка чараду пасці (Дубраўка, Усох. Буда, Добр.).

ЧАРАДНІ́ЧКА *ж.* пуга *(доўгая).* А чараднічкай як стрэліш, дак карова і бяжыць (Дубраўка, Добр.).

ЧАРАМХАВІ́К *м., рыб.* карась. Чарамхаві́к — карась, які нерастуе, калі цвіце чаромха (Азяраны, Раг.).

ЧАРАНО́К *м., памянш.* чыгунок. Неўжо ты чарано́к бульбы не з'ядаеш за дзень? (Лабыроўка, Карм.).

ЧАРАПУ́ШКА *ж.* 1. ракавінка. Чарапу́шак лоўляць, сушаць, а потым посуд шкрабуць (Стадолічы, Лельч.); 2. *перан., зневаж.* галава. Чарапу́шка ў цябе бальшая, ды дурная, вучышся на адны калы (Жураўлёўка, Добр.).

ЧАРАЎНІ́К *м., толькі адз., бат.* цвінтарэй. Чараўнік

чаруе ўсіх, хто гляне на яго (Багуцічы, Ельск.+Пагост, Жытк.).

ЧАРВІВЕЦ *м., толькі адз., бат.* бусельнік. Чарвівец цвіце жоўтым цветам (Баравікі, Светл.).

ЧАРВЯТОК *м.* яблык *(чарвівы)*. Пачаставала старая жмінда аднымі чарвятокамі (Любань, Акц.).

ЧАРДАЧНІК *м.* злодзей. Ах ты, чардачнік чортаў, чаго тут ходзіш? (Белы Пераезд, Петр.).

ЧАРНАПОЛ *м., буд.* падлога *(ніжняя)*. А гета дошка на чарнапол пойдзе (Гардуны, Добр.).

ЧАРНУШКА *ж. бат.* цыбуля *(насенная)*. Чарнушку ўвосень збіраюць (Ціркі, Браг.).

ЧАРОПКА (ЧАРЭПКА) *ж.* міска. Там дзесь у чаропцы крыху мукі шчэ засталося (Буйнавічы, Лельч.); Вазьмі чарэпку да памуй, а тогды налівай крупнік (Івашкавічы, Петр.).

ЧАРТА *ж., буд.* прылада *(для выемкі пазоў)*. Трэба дастаць будзе новую чарту (Людзінава, Петр.).

ЧАРЫ (ЧЭРЫ) *толькі мн.* соты. У вуллі было некалькі чараў (Івакі, Добр.); Адкладуе матка яечкі ў вузу, і ета будуць чэры (Усох. Буда, Добр.).

ЧАСОЎКА *ж.* пасма нітак у клубку. Калі клубок нібальшы, то ў ім будзе дваццаць часовак (Ларышчава, Добр.+Хізы, Ветк.; Холміч, Рэч.). *Параўн.* часоечка, чусойка.

ЧАСОЕЧКА *ж., памянш. да* часоўка. Во клубок, а часоечкі адна на другую налажваюцца (Кароткавічы, Жлоб.). *Параўн.* чусойка.

ЧАСУВАЦЬ *незак.* паміраць. «Наш сусед часуе»,— сказала маці (Нова-Кузнечнае, Лоеўск.).

ЧАУС *м., тое, што* чавун. Я заўсёды ў чаусе крупнік вару (Камаровічы, Перт.). *Параўн.* чуган.

ЧАЎПА *аг., зневаж.* чалавек *(неразумны)*. Хадора самая настаяшчая чаўпа, нічога ні кумекае (Палессе, Чач.).

ЧАЎПЕНЬ *аг., зневаж.* пустамеля. Чаўпень нейкі, меле нейкую бязглуздзіцу (Зарэчча, Жлоб.).

ЧАЎПІЦЦА *незак.* ісці *(марудна)*. Ну што ты там чаўпесся, так мы і к вечару не прыдам (Пакалюбічы, Гом.).

ЧАЎРАЦЬ *незак.* дажываць век. Яна ўжо чуць чаўрае, зімы, наверна, не перажыве (Пакалюбічы, Гом.).

ЧАЦВЯРЫК I *м.* вілы *(чатырохрогія)*. Чацвярыком лепей накідаць гной (Майскае, Жлоб.).

ЧАЦВЯРЫК II *м.* бочка *(ёмістасцю 16 кг)*. Намалаціў сягоння дзевяць чацвярыкоў, дубовых такіх, з ручкамі, што б за што брацца ямчэй (Хізы, Ветк.).

ЧАЦВЯРЦЯ́К *м., цясл.* вушак. Хто заве луткі, хто чацвярця́к (Карма, Добр.).

ЧВУР *м.* сцежка *(звярыная)*. Тут заечы чвур, трэба петлейку паставіць, заец можэ ўлезці (Стадолічы, Лельч.).

ЧМА́РЫ *прым.* цёмны. Мікола купіў кароўку. Нічога так, маленька, чма́ра (Мілашавічы, Лельч.); А хмара такая чма́рая была (Неглюбка, Ветк.).

ЧМУРА́ I *ж., зборн.* гушчар. Чмура́ ў лесе такая, што і не пралезці (Бабовічы, Гом.).

ЧМУРА́ II *ж., зборн.* машкара. Многа ў каго дзяцей, дык гаворань, як чмуры́, багата (Хізы, Ветк.).

ЧМУРЭ́ЧА *ж.* гарэлка. Вось ужо панадзіўся піць гэтую чмурэ́чу (Горваль, Рэч.).

ЧО́БРЫК *м., памянш., бат.* чабор. Ён па зямле расце, чо́брык, жоўценькі такі; Чо́брык еты тапілі і дзецям малым таплёны давалі (Хізы, Ветк.+Асарэвічы, Браг.; Дубраўка, Добр.; Ручаёўка, Лоеўск.; Холмеч, Рэч.).

ЧО́ЎНІК *м., ткацк.* чаўнок. Такіе гарные кросны, што чо́ўнік, здаецца, бегае сам сабе; Такі добры быў чо́ўнік, дак нада ж згубіць (Барталамееўка. Ветк.+Кароткавічы, Жлоб.; Крыўск, Б.-Каш.; Холмеч, Рэч.).

ЧО́ХАЦЬ *незак.* чхаць. Ну што ты ўсё чо́хаеш? (Холмеч, Рэч.).

ЧО́ХЛІ *толькі мн.* манжэты. Хацела зеленую кохту надзець, да ў чо́хлях гузікаў нет (Кірава, Браг.).

ЧО́ХЛІКІ *памянш. да* чо́хлі. Пашыла плацця з чорнага простага палатна, а чо́хлікі ўшытыя (Бялёў, Жытк.+Рафалаў, Браг.).

ЧУБА́РЫК *м., заал.* жаваранак. Чуба́рыкі высока ў небе летаюць, прыгожа спеваюць (Юравічы, Калінк.).

ЧУВА́Л *м.* мяшок. Дастаў новы чува́л са скрыні (Людзвінава, Петр.). *Парайн.* чува́ла.

ЧУВА́ЛА *ж., тое, што* чува́л. Картошку ў чува́лу сыпем (Камаровічы, Петр.).

ЧУГА́ *ж.* спадніца *(доўгая)*. Адзела б ты чугу́, яна ж у цябе вельмі прыгожая (Саўгасная, Б.-Каш.).

ЧУГА́Н *м., тое, што* чаву́н. Купіла чуга́н, да вялікі; Два чуга́ны бульбы паставіла свінням, каб заўтра не варыць (Асарэвічы, Піркі, Браг.; Заходы, Рэч.). *Парайн.* ча́ус.

ЧУ'ЙКА *ж.* армяк. Каторае з сукна, доўгае такое,— то чу́йка, а то вось — спінжак (Асарэвічы, Браг.). *Парайн.* чухме́нь.

ЧУЛІ́НДА *ж., зневаж.* жанчына *(неахайная)*. За харошым мужам і чулі́нда жана, а за плахім і папоўская раба (Быч, Карм.). *Парайн.* чуме́дра.

ЧУМАКІ́ *толькі мн.* чаравікі *(скураныя)*. А чумакі як адзенеш, дык пляшаш увесь вечар (Піркі, Браг.).

ЧУМЕ́ДРА *ж., зневаж., тое, што* чулі́нда. У той чуме́дры ў хаці гразішчэ вечно (Каменка, Маз.).

ЧУМУТА́ *ж.* пойла. Ці ж гэта малако? Та ж чумута́ якайсці (Палессе, Чач.).

ЧУ'НІ *толькі мн.* галёшы. Чу́ні паклеіць трэба, а то ваду прапускаюць (Іванаўка, Хойн.+Багуцічы, Ельск.; Навасёлкі, Петр.; Рэчышчы, Светл.).

ЧУ'НІКІ *толькі мн., памянш. да* чуні. Сённі купіла сваёй малой чу́нікі (Чырвонае, Рэч.).

ЧУРА́К *м.* бутэлька *(ёмістасцю 250 г)*. Мо, далі б молока хоч чура́к, а то дзіця хворэ (Мілашавічы, Лельч.).

ЧУ'РЛІК *м., памянш.* гаршчочак. Учора Нюта купіла такі ладны чу́рлік у лаўцы (Лабыроўка, Карм.). *Парайн.* чы́брык.

ЧУСО́ЙКА *ж., тое, што* часо́ўка. Чусо́йкі — гэта пласты на клубку, каб ён круты быў (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* часо́ячка.

ЧУХЕ́ЛІЦЬ *незак.* падаваць. Марфа, чухе́ль мне сякеру (Маклішча, Хойн.).

ЧУХМЕ́НЬ *м., тое, што* чу́йка. Чухме́нь вялікі, доўга носіцца (Насовічы, Добр.); Длінны саматканы такой чухме́нь еты даўно шылі (Хізы, Ветк.+Асінаўка, Чач.).

ЧУЧАЛО́НКА *ж., анат.* фаланга. Упала на лёду, да пазбівала ўсе чучало́нкі (Бярэзнікі. Жытк.).

ЧЫ'БРЫК *м., памянш., тое, што* чу́рлік. У чы́брыку трэба сцярагацца варыць, а то шчэ разаб'еш (Лабыроўка, Карм.).

ЧЫБУРЫ'ХНУЦЦА *зак.* баўтануцца. Хто-та як піхнуў мяне, дак я як чыбуры́хнуўся з парому (Быч, Карм.).

ЧЫВУ'ШКАЦЬ *незак.* такаваць. Цецерукі рана пачынаюць чыву́шкаць, яшчэ когда цёмно (Стадолічы, Лельч.).

ЧЫГІ́РНІК *м.* імшара. Па ўзгорку ягад німа, а по чыгі́рніку многа яшчэ е (Бялёў, Жытк.).

ЧЫ'ГЛАЎКА *ж. дзіц.* скакалка. А яна вельмі доўга

прыгала чэраз чы́глаўку (Глушкавічы, Лельч.); Мой малы дзесьці ў садзе гуляе з чы́глаўкай (Злодзін, Маз.).

ЧЫКІЛЬДА́ *ж.* качарга. Чыкільда́ ў кутку стаіць (Камаровічы, Петр.).

ЧЫКІЛЬДА́ЦЬ *незак., тое, што* чыкільга́ць. Мой Толька ўжо вучыцца чыкільда́ць (Хвойнае, Хойн.).

ЧЫМЁРКА *ж.* вопратка *(мужчынская)*. Мой стары дык чымёрку шчэ зверху варатнікам з аўчын абшыў. Прыгожа вельмі (Вышамір, Рэч.+Насовічы, Добр.).

ЧЫМЧАЛА́ *ж., бат.* бузіна. Чымчала́ расце ў нас на агародзе, красныя і чорныя ягады на ёй (Баравікі, Светл.).

ЧЫ́НКА *ж.* каструля. Ванюшка, забяры ў цёткі чы́нку (Лабыроўка, Карм.).

ЧЫНЫ́ *толькі мн., ткац.* дэталі *(для раздзялення нітак асновы)*. Дзед мне добрыя чыны́ зрабіў, добра будзе ткаць (Багуцічы, Ельск.+Бялёў, Жытк.; Быч, Карм.; Каравацічы, Рэч.; Кароткавічы, Жлоб.; Марозавічы, Б.-Каш.; Пярэдзелка, Лоеўск.; Тонеж, Лельч.; Чалюшкавічы, Петр.).

ЧЫ́РЫЦА *ж., заал.* самка *(чырка)*. Хадзіў учора швагра на ахоту, дак прынёс толькі дзве маленькія чы́рыцы (Аравічы, Хойн.).

ЧЫРЫ́ЧКА *ж.* 1. *заал., памянш. да* чы́рыца. Чыры́чка — вутка малая, нясе сем — дзевяць яец (Лядцы, Светл.+Піркі, Браг.). 2. *перан.* жанчына *(гаварлівая)*. Зноў гета чыры́чка вуйшла да мяне (Калінічы, Нар.).

ЧЫ́СЦІК *м., бат.* крапіва. Чы́сцікам змуваюцца, што б на галаве не было перхаці (Гармавічы, Жлоб.+Падворак, Лельч.).

ЧЫСЦЯ́К *м., бат.* чыстацел. Чысця́к на анюціны глазкі пахожы — сіні, белы, жоўценькі, рабаваты (Марозавічы, Б.-Каш.).

ЧЭ́КАЦЬ *незак.* клекатаць. Буслы ўжэ чэ́каюць, значыць, вясна будзе (Стаўбун, Ветк.).

ЧЭЛНЕСЦЕ́НЬ *м.* дымаход. Чэлнесце́нь трэба ўжо пачысціць, а то сажа падая (Навінкі, Калінк.). *Параўн.* чэ́люсце.

ЧЭ́ЛЮСЦЕ *н., тое, што* чэлнесце́нь. Ето чэ́люсце, праз его дым ідзе. Там, людзечкі, на чэ́люсце сажы, аж страшно (Заходы, Мілашэвічы, Лельч.).

ЧЭ́МЕР *м.* 1. *бат.* чамярыца. Чэ́мер на лузе расце (Уць, Добр.+Хізы, Ветк.); Помню, грошы кой-як сабралі, купілі коніка, а ён многа не пражыў і здох,— чэ́меру

наеўся (Бабовічы, Гом.,+Баравікі, Светл.; Быч, Карм.; Марозавічы, Б.-Каш.). 2. *перан.* гарэлка *(на чамярыцы)*. Учора выпілі пляшку чэ́меру (Уць, Добр.).

ЧЭ'МЕРНЫ *прым.* злы. Ох, моя донька, якая ты чэ́мерная (Дарашэвічы, Петр.).

ЧЭП *м.* 1. ланцуг. Лодку на чэп бяром (Бялёў, Жытк.+Навасёлкі, Петр.). 2. клямка. Вазьмі дзверы на чэп (Неглюбка, Ветк.).

ЧЭ'РВАНКА *ж.* банка *(для чарвей)*. Узяў чэ́рванку накапаць чарвей (Грушаўка, Нар.).

ЧЭ'ХЛІК *м.* сарочка *(жаночая)*. Чэ́хлік з двух кускоў матэрыялу шыюць. Адна палавіна з крамнога палатна — гэта для пояса і далей з корту (Антонаў, Ельск.+Барталамееўка, Ветк.; Вуглы, Нар.).

## Ш

ШАБЕ́ТА *ж.* 1. сумка, ранец. Шабе́та добрая (Тульгавічы, Хойн.); Бацька купіў ім шабе́ту для кніжак (Заспа, Рэч.; Неглюбка, Ветк.); З шабе́тай і на ахвоту хадзіў (Холмеч, Рэч.+Віць, Хойн.; Піркі, Браг.). *Параўн.* ша́нька. // кашалёк. Грошы толькі ў шабе́ту кладзі (Глінішча, Хойн.). 2. *перан.* старая жанчына. От шабе́та старая, дома б сядзела ужэ (Глінішча, Хойн.).

ШАБЁР *м.* сусед. Ідзе мой шабёр (Дварэц+Батвінава, Чач.).

ШАБУНЯ'ЦЬ *незак., неадабр.* гаварыць *(незразумела)*. Нічога ні панятна, што іна там шабуня́я біззубым ротам (Пакалюбічы, Гом.). *Параўн.* шаве́ркаць, шадэ́ркаць, шве́ркаць, швэ́ргаць.

ША́ВЕР *м., бат.* асака *(сухая)*. Не хоча карова етага ша́веру есці (Агароднікі, Калінк.).

ШАВЕ́РКАЦЬ *незак., неадабр., тое, што* шабуня́ць. Вып'е чарку і шаве́ркае сабе ў вугле нешта, дабіся толку (Залессе, Браг.). *Параўн.* шадэ́ркаць, шве́ркаць, швэ́ргаць.

ШАВЕ́ЛЬ *м.* род танца. Цяпер іншыя танцы танцуюць, а раней толькі шавяля́ і кадрэлю (Кароткавічы, Жлоб.).

ШАВЯЛЯ'ЦЬ *незак.* шапялявіць. Баба старая, зубоў няма, ну і шавяля́е (Палессе, Чач.).

ШАГАВУ'ХА *ж.* шаршатка. Такая добрая шагаву́ха была да зламалася (Ж. Буда, Добр.); Мяшкі шыяць у нас шагаву́хай (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* шаго́ўка.

ШАГАМЕ́ТР *м.* сажань. На, вазьмі шагаме́тр і вымерай Насцін участак (Глінішча, Хойн.).

ШАГО́ЎКА *ж., тое, што* шагаву́ха. Загубіла я сваю шаго́ўку (Пракопаўка, Добр.).

ШАДЭ́ЛКА (ШАДЭ́ЛКО) *н.* кручок *(для вязання)*. Купіла сабе нове шадэ́лко (Будкі, Нар.). *Параўн.* шві-дэ́лак, швыдэ́лка, швындэ́лка, шыдэ́лак.

ШАДЭ́РКАЦЬ *незак., неадабр., тое, што,* шабуня́ць. Шадэ́ркаюць каторыя тут? (Палессе, Чач.). *Параўн.* шаве́ркаць, шве́ркаць, швэ́ргаць.

ШАЛАБА́Н *м.* хвалько. Во Васіль мой шалаба́н. Дарма, што ўнук, а шалаба́н (Аравічы, Хойн.).

ШАЛАБА́НКА *ж., жарт.* галава *(неразумная)*. Галава шчэ ета шалаба́нка (Быч, Карм.).

ШАЛА́ЙБА *ж., неадабр.* жанчына. Пятруша, хваціць табе бегаць за гэтай шала́йбай (Сяўкі, Лоеўск.). *Параўн.* шаламе́ндра.

ШАЛАМЕ́НДРА *ж., неадабр., тое, што* шала́йба. Жонку кінуў, а пашоў да тае шаламе́ндры (Каменка, Маз.).

ШАЛАМЕ́РКА *ж.* кафтан. Якая шаламе́рка харошая (Насовічы, Добр.).

ШАЛА́МКА *ж. іран.* шапка. У вас ёсць якая шала́мка на галаву? (Хвойнае, Хойн.). *Параўн.* шаламо́к.

ШАЛАМО́К *м., іран., тое, што* шала́мка. І дзе ты такі шаламо́к узяў? (Р. Бурыцкая, Лоеўск.).

ШАЛАМЯ́ *м.* жарабя. А шаламя́ ад кабулы не адстае (Другая Слабодка, Петр.).

ШАЛАПУ́ТАЛА *аг., неадабр.* бесталковы чалавек. Ой, шалапу́тала, ідзі адсюль. А, шалапу́тала, да і ўсё (Дубраўка, Добр.).

ШАЛА́ЦЦА *незак., неадабр.* цягацца, хадзіць *(без справы)*. Любя шала́цца ўсё па дамах (Быч, Карм.); Да якога часу ты будзеш тут шала́цца? (Н. Кузнечнае, Лоеўск.+В. Нямкі, Ветк.). *Параўн.* ша́стаць, шве́ндаць, швэ́ндацца, шле́ндаць, шлы́ндаць, шля́цца, шэ́ўкацца.

ШАЛЕ́ПНІК I *м., бат.* асот. Яна ж такая бесхозяйственная, у яе вунь усе соткі пораслі шале́пнікам (Бялёў, Жытк.).

ШАЛЕ́ПНІК II *м.* алешнік. Хоць шале́пніку на дровы трэба насекчы (Боркі, Петр.); Загнаў тавар у шале́пнік дай хоча выбрацца хутка (Стадолічы, Лельч.).

ШАЛЕ́СТАЦЬ *незак.* шапацець, шалясцець. Нешта

шале́стае ў кладоўцы (Засіцы, Ельск.). *Параўн.* ша́маць *у 2 знач.*

ШАЛЕ́Я *ж., бат.* касач. Штосьці шалея мала цвіла ў гэтым годзе (Грушаўка, Нар.).

ШАЛЁК *м., памянш.* шалік. Нінка, надзень беленькі шалёк (Чыстыя Лужы, Добр.).

ШАЛІНО́ВЫ *прым.* шарсцяны. Купіла шаліно́вую хустку (Дарашэвічы, Петр.).

ШАЛІНО́ЎКА (ШЭЛІНО́ЎКА) *ж.* хустка *(шарсцяная).* Я столюзна загатоўкі завезла, а ён не даў шаліно́ўкі (Грабава, Жытк.); Дзе ты купіла гэтаку шаліно́ўку харошу? (Бярэзнікі, Жытк.); Дачка падаравала маці прыгожую шэліно́ўку (Філанавічы, Петр.+Харомцы, Акц.). *Параўн.* шаля́нка.

ШАЛУДЗІ́ЎКА *ж., бат.* трава *(мядовая).* Шалудзі́ўка етая пад заборам расце (Піркі, Браг.).

ШАЛУПА́ХА *ж.* шалупайка. Біў, біў, ніяк усё ж гэту шалупа́ху не разбіў (В. Нямкі, Ветк.). *Параўн.* шалупе́йка, шалу́пка, шалу́ха *ў 4 знач.,* шалу́шка, шкарлу́па, шкару́пка.

ШАЛУПЕ́ЙКА *ж., тое, што* шалупа́ха. Шалупе́йкі выкінь курам (Асінаўка, Чач.). *Параўн.* шалу́пка, шалу́ха *ў 4 знач.,* шалу́шка, шкарлу́па, шкару́пка.

ШАЛУ'ПКА *ж., тое, што* шалупа́ха. Усып у вядро шалу́пку ад яйка (Ліцвінавічы, Карм.); Калі яечка добра зварыць, то шалу́пкі лёгка аддзяляюцца (Любань, Б.-Каш.+Халочча, Чач.; Хізы, Ветк.). *Параўн.* шалупе́йка, шалу́ха *ў 4 знач.,* шалу́шка, шкарлу́па, шкару́пка.

ШАЛУ'ШКА *ж., тое, што* шалупа́ха. Хоць бы прыбрала шалу́шкі цыбулі (Пабеда, Ветк.); А я шалу́шкі курам аддаю (Насовічы, Добр.+Бабовічы, Гом.). *Параўн.* шалупе́йка, шалу́пка, шкарлу́па, шкару́пка.

ША́ЛЬКА *ж.* хустка *(вялікая, суконная).* Накінь ша́льку, а то прастудзіся (Барталамееўка, Ветк.). *Параўн.* шара́ўка.

ША́ЛЬНІК *м., бат.* чыстацел. Ша́льнік — гэта трава такая, часцей у лузе сустракаецца (Бялёў, Жытк.); Ша́льнік параць і ўмываюцца, каб ліцо було чыста (Падворак, Лельч.).

ША́ЛЯ *ж.* гіра *(вясоў).* Е ша́лі рознай вагі (М. Аўцюкі, Калінк.).

ША́ЛЯГОЎКА *ж.* гаршчок *(невялікага памеру).* Шалягоўку малака стапіла. Паставіла ў печ адну шалягоўку крышанкі (Маркавічы, Гом.).

ШАЛЯ'ЖКА *ж.* аблямоўка. Я вам зраблю шаля́жку з чорнай палосачкай (Вышамір, Рэч.).

ШАЛЯ'НКА *ж., тое, што* шаліно́ўка. У Лоеве шаля́нкі красівенныя былі (С. Лутава, Лоеўск.).

ШАЛЯСТУ'ХА (ШАЛЕСТУ'ХА) *ж., бат.* трава *(балотная)*. Шалестуха ў озёрных местах расце (Аравічы, Хойн.).

ША́МАЛА *ж.* матрац. Можа, без ша́малы спаць, але ж без яе мулка (Баравікі, Светл.); Папраў на каравакі ша́мала (Заходы, Рэч.).

ШАМАТУ'ШКА *ж.* цацка *(дзіцячая)*, бразготка. От як пачне гуляць з шамату́шкай, дык вясёлы такі (Піркі, Браг.). *Парайн.* шараха́йка.

ША́МАЦЬ *незак.* 1. *неадабр.* есці. Пайду, крыху ша́маць трэба, а то ўжо пад ложачкай смокча (Саўгасная, Б.-Каш.); Ша́май ды хутчэй ідзі спаць (Паташня, Хойн.+Узнаж, Рэч.). *Парайн.* ша́мкаць. 2. *тое, што* шале́стаць. Ціха, ніхто нідзе не ша́мае (Бялёў, Жытк.).

ШАМАШЫ'НА (ШАМЯШЫ'НА) *ж.* перхаць. Шамашы́на на каўнер сыпецца (Пярэдзелка, Лоеўск.); Поўная галава шамяшы́ны (Баравікі, Светл.). *Парайн.* шаме́ха, шамя́ха.

ШАМАШЫ'ННЕ *зборн., н.* капуста *(мяккія качаны)*. Качаны засталіся адно шамашы́нне (Залессе, Чач.).

ШАМЕ́ХА (ШАМЯ'ХА) *ж., тое, што* шамашы́на. Ад гэтага мыла шаме́ха заводзіцца (Перароў, Жытк.); З галавы трэба шамя́ху вывесці, а то многа (Забалацце, Раг.+Пярэдзелка, Лоеўск.). *Парайн.* шамя́ха.

ША́МКАЦЬ *незак., неадабр., тое, што* ша́маць *у 1 знач.* Сядзе, ша́мкае, надаесць ўсім пакуль з'есць Ведрыч, Рэч.).

ШАМЛЯ'К *м.* качан капусты *(мяккі)*. І куды гэтая капуста — адны шамлякі́ (Казялужжа, Хойн.). *Парайн.* шапля́к II, шаўля́к, шуля́к I *у 1 знач.*

ША́МНУЦЬ *зак., экспр.* рухнуць, праваліцца. Мы з бацькам сталі пераходзіць раку на першым лёдзе і ша́мнулі абодва ў ваду (Заспа+Задуб'е, Раг.; Сямёнаўка, Раг.). *Парайн.* шу́хнуць, шчабо́ўкнуцца.

ШАМЯТА́ЦЦА *незак., груб.* уставаць. Шамята́йцесь, дзеўкі, з пасцелі (Піркі, Браг.).

ШАМЯТА́ЦЬ *незак.* рваць. Не шамята́й кніжку (Слава, Светл.).

ШАНДА́ЛЫ *толькі мн.* слупы *(для зруба)*. Бацька прыцягнуў таўсты дуб на шанда́лы (Рудня, Чач.); Шан-

да́лы ўкапалі ў зямлю (Ухоў, Ветк.). *Параўн.* шкада́ры, шканда́ры, штанда́ры. // падваліны. Пад мастом шанда́лы ўжэ пагнілі (Сапрыкі, Чач.).

ШАНО́К *м.* мера *(вагі, роўная 5 пудам)*. Шано́к жа не паложыш і не пойдзіш (Норкаўшчына, Карм.+Івакі, Добр.).

ШАНТРЭ′П'Е *зборн., н., зневаж.* дзятва. Учора мне етае шантрэ́п'е ўсе слівы паабтрасалі (Амельно, Раг.). *Параўн.* шпана́.

ШАНТУ′П *м.* разетка *(электрычная)*. Антось, хадзі адрамантуй шанту́па (Навасёлкі, Хойн.).

ШАНУ′ЦЬ *зак.* пайсці. Дзеці шану́лі, дак і самой не прыйшлося выйсці (Дарашэвічы, Петр.).

ША́НЬКА *ж., тое, што* шабе́та *ў 1 знач.* Хоць ша́нька і была вялікая, але яблыкі ўсе не ўлезлі (Белы Пераезд, Петр.); Узяў абед у ша́ньку, закінуў за плечы і пайшоў пасвіць кароў (Хвойнае, Хойн.); Як пойдзеш па шчавель, вазьмі маю ша́ньку (Іванаўка, Хойн.+Вітаў, Жлоб.; Грабава, Жытк.; Грушаўка, Добр.; Дзяражычы, Лоеўск.; Замосце, Калінк.; Неглюбка, Ветк.). // кашэль. Добру ша́ньку за дзень чарніц прыносіць (Рычоў, Жытк.).

ШАПА́РКА *ж.* павець. У шапа́рку дровы кладуць, лучыну, сена (Піркі, Браг.). *Параўн.* шо́па.

ШАПЁТКА *аг.* чалавек *(шапялявы)*. Як ён размаўляе, шапётка еты (Дубраўка, Добр.).

ШАПІ́РКА *ж.* шампіньён. Шапі́рка мае салодкі прысмак (Даманавічы, Калінк.).

ША́ПКА *ж., перан.* 1. сланечнік *(галоўка)*. Сарваў ша́пку сланечніка (Гармавічы, Жлоб.). 2. апоўзіны. Штоб вецер не разбурыў стог, яго вяршаюць ша́пкай з голля (Ст. Буда, Б.-Каш.). 3. вяршнік. Ша́пак яшчэ няма, а так трэба хутчэй рамы ўстаўляць: зіма блізка (Забалацце, Раг.); Не зацапіцеся, а то стукнецеся аб ша́пку (М. Аўцюкі, Калінк.+Крынкі, Рэч.; Піркі, Браг.).

ШАПЛЯ′К I *м.* лядзяш. Вот доўгіе шаплекі́ звісаюць са страхі (К. Слабада, Акц.).

ШАПЛЯ′К II *м., тое, што* шамля́к. Шаплякі́ я павек краля́м аддаю (Глінішча, Хойн.). *Параўн.* шаўля́к, шуля́к I *у 1 знач.*

ША́ПНУ′ЦЬ *зак., перан.* падказаць *(каму-н. што-н.)*. Яму хтось шапну́ў, што яна прыехала (Пакалюбічы, Гом.).

ШАПЯЛЯ́ТЫ *прым.* шапялявы. Шапля́ты ён быў у яе, а з віду харошы (Быч, Карм.).

ШАПЯТА́ЦЬ *незак.* нагаворваць. Што ты ўжо шапята́еш на мяне зноў? (Піркі, Браг.).

ШАП'Я́ХА *ж., толькі адз.* кароста. У дзіцёнка на галаве шап'я́ха (Забалацце, Раг.).

ШАРА́К I *м.* палатно *(неадбеленае, нефарбаванае).* Шара́к — ета яшчэ неадбеленае і нефарбаванае палатно (Баравікі, Светл.); Я сама шаракі́ ткала (Кавака, Браг.).

ШАРА́К II *м.* заяц *(шэры).* Учора ў нашым гародзе бачылі дзеці шарака́ (Палессе, Чач.).

ШАРА́М *м.* шрам. Пасля раны застаўся шара́м (Халочча, Чач.); У нашага Івана шара́м ад вайны шчэ застаўся (Хізы, Ветк.).

ШАРА́ЎКА ж., *тое, што* ша́лька. Дзе гэта мая шара́ўка завалілася? (Палессе, Чач.).

ШАРАХА́ЙКА *ж., тое, што* шамату́шка. Глядзі, ужэ шараха́йку ў руках дзяржыць (Пакалюбічы, Гом.).

ШАРА́ХНУЦЬ *зак., экспр.* стукнуць. Ён як шара́хнуў яе (Жгунь+Норкавічы, Добр.). *Параўн.* шло́пнуць, шлэ́пнуць, шпо́кнуць.

ШАРА́Ш *м.* шарпак. Харошы снягавы шара́ш (Целяшы, Гом.). *Параўн.* шаро́н, шаро́ш, шарэ́ш II.

ШАРО́ЙКІ *толькі мн.* высеўкі, рэшткі *(пасля прасейвання).* На рэшаце астаюцца шаро́йкі (Неглюбка, Ветк.); Шаро́йкі аддаём гусям, свінням (Багданавічы, Карм.+Дубраўка, Добр.; Капань, Рэч.; Меркулавічы, Чач.; Хізы, Ветк.). *Параўн.* шкарлу́п'е.

ШАРО́Н *м., тое, што* шара́ш. Калі снег падтае, а потым холад зноў, дык шаро́н на снягу (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* шаро́ш, шарэ́ш II.

ШАРО́Ш *м., тое, што* шара́ш. А ён бывае пасля адлігі ў мароз еты шаро́ш (Кароткавічы, Жлоб.). *Параўн.* шаро́н, шарэ́ш II.

ШАРО́ША *ж.* іней. На дзярэўях бальшая шаро́ша (Янова, Ветк.). *Параўн.* шарэ́ш I, шэ́рань.

ШАРО́ШКА *ж.* матыка. З шаро́шкай добра палоць між радоў (Жмураўка, Рэч.).

ШАРПО́ТА *ж.* галалёдзіца. Шчэ як шарпо́та, так слізка (Быч, Карм.).

ШАРСЦЕ́НЬ *м.* шэршань. Вясной трудзіцца шарсце́нь, здабывае сабе мёд (Кароткавічы, Жлоб.).

ШАРХВА́ *ж.* шалік. Мой купіў дабрэнную шархву́,

ды нешта ня нося (Дубраўка, Добр.+Р. Бурыцкая, Лоеўск.).

ШАРШЭ́БКА (ШАРШЭ́ПКА) *ж.* шархебель. Гэтыя доскі без шаршэ́бкі не пагаблюеш (Людзяневічы, Жытк.); Спярша шаршэ́бкай стругаем (Глінішча, Хойн.); Шаршэ́пкай знімаем верхні слой (Хізы, Ветк.); Спачатку доскі апрацоўваюць шаршэ́пкай (Бялёў, Жытк.).

ШАРЭ́Ш I *м., тое, што* шаро́ша. На дрэвах шарэ́ш (Палессе, Чач.). *Параўн.* шэ́рань.

ШАРЭ́Ш II *м., тое, што* шара́ш. Дужа харашо ехаць па шарэ́шу: санкі лёгка па ім ідуць (Палессе, Чач.+Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* шаро́н, шаро́ш.

ШАРЭ́Ш III *м.* шарош *(дробны лёд).* Када па рацэ пойдзе шарэ́ш, то ні да рыбы (Хізы, Ветк.).

ШАСЦЁРКА *ж.* 1. каса *(с.-г.).* Можа ў цябе знойдзецца яшчэ шасцёрка? (Дземяхі, Рэч.+Забалацце, Раг.). *Параўн.* шасцiру́чка. 2. *перан.* жанчына *(якая хутка гаворыць).* Ну, чаго ты растрашчалася, шасцёрка? (Замошша, Жытк.).

ШАСЦІРУ́ЧКА *ж., тое, што* шасцёрка *ў 1 знач.* Тут відна шасціру́чка пахадзіла (Астрагляды, Браг.+Багуцічы, Ельск.; Пагоннае, Хойн.).

ШАТ *м.* галавакружэнне. Існі нельга, шат водзя (Цярэшкавічы, Гом.).

ШАТА́Н *м. неадабр.* дурань. Ён як шата́н бегае, ганяе ўсіх па вуліцы (Быч, Карм.).

ША́ТКІ *прым.* рухавы, быстры, спрытны *(у рабоце).* Такі ўжо ша́ткі, спачыну яму німашака (Ломыш, Хойн.); Казалі, што Васілёва жонка ша́тка вельмі: пака ўстануць, усё паробіць (Прудок, Калінк.+Валокі, Хойн.; Гарадзец, Раг.; Грушаўка, Нар.; Рудня, Гом.). *Параўн.* шві́дкі, шпе́тны.

ШАТКО́ЎКА *ж.* 1. шаткоўня. Шатко́ўкі свае няма, так мы ў суседкі просім (Марозавічы, Б.-Каш.+Грушаўка, Добр.). 2. шаткаванка. Вот смашная шатко́ўка сёлята палучылася (Навінкі, Калінк.); Восені нарабілі шаткоўкі, памідораў насалілі (Бялёў, Жытк); Прыдзі заўтра з посудзіною, дам шатко́ўкі, ужэ ўкісла (Заходы+Запясочнае, Лельч.; Кароткавічы. Жлоб.). *Параўн.* шатрава́нка, шатро́ўка.

ШАТРАВА́НКА *ж., тое, што* шатко́ўка *ў 2 знач.* Прынясі к сталу шатрава́нкі (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* шатро́ўка.

ШАТРАВА́ЦЬ *незак.* 1. шаткаваць *(капусту).* Гаспадыня шатрава́ла капусту (Асінаўка, Чач.); Мы сённі на зіму шатрава́лі ўжэ (Зарэчча, Жлоб.). 2. патрашыць *(рыбу).* Мой Хведзя сегоні поўмешка рыбы прынёс, да от нема ее̇ шатрава́ць калі (Хлупін, Жытк).

ШАТРО́ЎКА *ж., тое, што* шатко́ўка *ў 2 знач.* Схадзі ў пограб і прынесі шатро́ўкі (Асінаўка, Чач.). *Параўн.* шатрава́нка.

ШАЎКАВІ́ЦА (ШАЎКО́ВІЦА) *ж. 1.* ягада *(тутаўніка).* Шаўкаві́ца вельмі салодкая (Пагост, Жытк.); У нас шаўко́віцу сабіраюць, але варэнне мала вараць (Дубраўка, Добр.+Баравікі, Светл.). 2. куст *(тутаўніка).* Шаўкаві́ца разраслася, ягад многа (Саўгасная, Б.-Каш.); Мяты, шаўко́віцы трохі і ў еты букет свечку ставяць перад маладымі (Піркі, Браг.+Хізы, Ветк.).

ШАЎЛЮ́ГА *ж., бат.* шалфей. Атварам шаўлю́гі палошчуць горла (Багуцічы, Ельск).

ШАЎЛЯ́ГА *аг.* свавольнік, нягоднік. Ах, шаўля́га, я табе пабегаю (Перавессе, Ветк.).

ШАЎЛЯ́К *м., тое, што* шамля́к. Не качаны, а адны шаўлякі́ дасталіся (Капараўка, Рэч.). *Параўн.* шапля́к II, шуля́к I *у 1 знач.*

ШАХО́ЎКА *ж.* тумбачка. Палажы сала ў шахо́ўку, а то кот тут дастане (Рудакоў, Хойн.). *Параўн.* шка́хаўка.

ШАЦІНЕ́ТАВЫ *прым.* сацінавы. Шаціне́тавую сукенку сашыла (Лукі+Кабанаўка, Жлоб.).

ШАЧКА́Р *м.* рыбалоў. Еты шачка́р ніколі без рыбы не прыходзіць (Славечна, Ельск.).

ШВАГО́Р *м.* швагер. Шваго́р яго дужа добры, гарэлкі і ў рот не бярэ (Багданавічы, Карм.). *Параўн.* шура́к, шу́рын.

ШВА́ЙКА *ж.* 1. іголка *(для пляцення лапцей).* Шва́йкі няма, а то б на спробу пасталы сплёў (Аляксандраўка, Калінк.+Неглюбка. Ветк.). 2. *перан.* дзяўчына *(якая верціцца каля люстэрка).* Маю ж шва́йку не адарвеш ад люстэрка (М. Аўцюхі, Калінк.).

ШВАРДЭ́ЛАК *м.* кавалак *(сала, мяса).* Узяў у лес добры швардэ́лак сала (Ліскі, Рэч.). *Параўн.* шмандэ́лак, шмато́к, шты́каль.

ШВА́РКА *ж.* 1. блузка *(вышываная).* Памыла б мне шва́рку (Злодзін+Глушкавічы, Маз.). 2. безрукаўка. У мяне тожа такая шва́рка, толькі мая з чартакожы (Вышамір, Рэч.); Куды мне шва́рку палажыць? (Ч. Буда+Насовічы, Добр.; Раманавічы, Гом.).

ШВА́Я *ж.* мера вымярэння. Прывёз толькі што шва́ю дроў (Багданавічы, Карм.); Швая́ раўняецца пяці вяршкам (Баравікі, Светл.). *Парайн.* швыро́к, шу́рка.

ШВЕ́ЙКА *ж.* швачка, краўчыха. Шве́йка яка добрая (Холмеч, Рэч.); Машыны рэдка ў каго былі, толькі ў шве́йкі (Баравікі, Светл.); Панясу шве́йцы спадніцу сашыць (Хвойнае, Хойн.+Неглюбка, Ветк.; Сапрыкі, Чач.).

ШВЕ́НДАЛА (ШВЕ́НДАЛО) *аг.* чалавек *(без справы).* Дзе ты ходзіш, шве́ндало? (Вуглы, Нар.).

ШВЕ́НДАЦЬ (ШВЭ́НДАЦЬ) *незак., неадабр., тое, што* шала́цца. Калі ты ўжо пераста́неш шве́ндаць (Тульгавічы, Хойн); Іван, не шве́ндай ты з хаты ў хату (Белы Пераезд, Петр.); А ета ўсё швэ́ндае ўслед (Шылавічы, Б.-Каш.+Вуглы, Ельск.; Заспа, Рэч.; Крыўка, Сямёнаўка, Раг.; Н. Кузнечнае, Лоеўск.; Пакалюбічы, Гом.; Хвойнае, Хойн.). *Парайн.* ша́стаць, швэ́ндацца, шле́ндаць, шлы́ндаць, шля́цца, шэ́ўкацца.

ШВЕ́РКАЦЬ *незак., неадабр., тое, што* шабуня́ць. Начне шве́ркаць, не можно вытрымаць: ні аднаго слова не разбярэш (Замосце, Калінк.). *Парайн.* шаве́ркаць, шадэ́ркаць, швэ́ргаць.

ШВІ́ДКІ *прым., тое, што* ша́ткі. Такі шві́дкі ў рабоце, любо глянуць (Стадолічы, Лельч.); А яна була така шві́дкая, баявая, як яе маці (Аравічы, Хойн.). *Парайн.* шпе́тны.

ШВІДЭ́ЛАК *м., тое, што* шадэ́лка. Што-та я даўно швідэ́лка свайго не бачу (Каравацічы, Рэч.). *Парайн.* швыдэ́лка, швындэ́лка, шыдэ́лак.

ШВО́РКА *ж.* 1. вяроўка *(тонкая).* Дзей тая шво́рка, хачу бяллё вешаць (Чыстыя Лужы, Добр.+Белы Пераезд, Петр.; Ніўкі, Добр.; Рафалаў, Браг.; Целяшы, Гом.). 2. завязка. Падай якую-небудзь шво́рку мех завязаць (Апанасаўка, Гом.); Завяжы мяшок шво́ркай (Дубраўка, Добр.+Баравікі, Светл.). 3. павадок *(для сабакі).* Потым знімеш шво́рку і пускаеш па следу (Аравічы, Хойн.+Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* шо́рка.

ШВО́РНЯ *ж.* шворан. Шво́рня заесць — рады ні даць (С. Рудня, Жлоб.). *Парайн.* шкво́рань.

ШВЫГО́ЛКА *ж., бат.* пясчанка. Швыго́лкі многа па пясках (Халочча, Чач.).

ШВЫ́ДКА *прысл.* хутка. Швы́дка вядро вады прынясі (Грушаўка, Добр.). *Парайн.* шы́бка.

ШВЫДЭ́ЛКА *ж., неадабр., тое, што* шадэ́лка. Ад-

дала суседцы сваю швыдэ́лку (Каравацічы, Рэч.). *Парайн.* швідэ́лак, швындэ́лка, шыдэ́лак.

ШВЫНДЭ́ЛКА (ШЫНДЭ́ЛКА) *ж., тое, што* шадэ́лка. Швындэ́лка — гэта тое, чым вяжуць. Шындэ́лкай вяжуць красівыя кохты (Забалацце, Раг.). *Парайн.* швідэ́лак, швідэ́лка, шыдэ́лак.

ШВЫРО́К *м., тое, што* шва́я. Тры швыркі насек з кумам учора днём (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* шу́рка.

ШВЭ́НДАЦЦА *незак., неадабр., тое, што* шала́цца. Чаго ты швэ́ндаешся? (В. Нямкі, Ветк.); Як пашлеш куды-нібудзь, дык яна швэ́ндаецца да абеда (Хамінка, Лоеўск.). *Парайн.* ша́стаць, шве́ндаць, шле́ндаць, шлы́ндаць, шля́цца, шэ́ўкацца.

ШВЭ́РГАЦЬ (ШВЕ́РГАЦЬ) *незак., неадабр., тое, што* шабуня́ць. Хопіць шве́ргаць абы-што (Н. Мазолаў, Жлоб.); А ты перастань швэ́ргаць, нічога не ведаючы (Шарын, Ельск.; Паганцы, Светл.); Ён абы-што швэ́ргае, калі нап'ецца (Антонаў, Ельск.+Крыўск, Б.-Каш.; Сцяпы, Жлоб.). *Парайн.* шаве́ркаць, шадэ́ркаць, шве́ркаць.

ШКАДА́РЫ (ШКАНДА́РЫ) *толькі мн., тое, што* шанда́лы. Сначала шкада́ры ложаць, потым далей работа (Халочча, Чач.); Шканда́ры трэба добра ўкапаць (Гардуны, Добр.+Марозавічы, Б.-Каш.; Меркулавічы, Чач.; Целяшы, Гом.). *Парайн.* штанда́ры.

ШКАПЭ́РДЗІЦЦА *незак., неадабр.* ганарыцца. Ён так шкапэ́рдзіцца, а было б там чым (Цагельня, Раг.+Капань, Рэч.).

ШКАРЛА́Т (ШКАРЛЯ́Т) *м., мед.* шкарлятына. Шкарла́т напаў на дзяцей (Дарашэвічы, Петр.); Я хварэў у дзяцінстве шкарля́там (М. Аўцюкі, Калінк.). *Парайн.* шкарлаці́н.

ШКАРЛАЦІ́Н *м., мед., тое, што* шкарла́т. Шкарлаці́н у роце (Цярэшкавічы, Гом.).

ШКАРЛУ́П'Е *зборн., н., тое, што* шаро́йкі. Пасля прасейвання грэцкай мукі застаецца шкарлу́п'е (Багуцічы, Ельск.). *Парайн.* шаро́йкі.

ШКАРЛУ́ПІНА (ШКОРЛУ́ПІНА) *ж., адзінк., тое, што* шалупа́ха. Ей трэба яйцэ добрэ аблупіць, бо накоўтаецца шкорлу́пін (Заходы, Лельч.). *Парайн.* шалупе́йка, шалу́пка, шалу́шка, шкару́пка.

ШКАРУ́ПКА *ж., тое, што* шалупа́ха. Кардоплі пачысціла, а шкару́пкі не ўвабрала (Аляксандраўка, Ка-

лінк.). *Парайн.* шалупе́йка, шалу́пка, шалу́ха *ў 4 знач.*, шалу́шка, шкарлу́па.

ШКА́ХАЎКА *ж., тое, што* шахо́ўка. Закрый, унучак, шка́хаўку (Барталамееўка, Ветк.).

ШКВО́РАНЬ *м., тое, што* шво́рань. Шкво́рань утыркаюць у передок (Ручаёўка, Лоеўск.+Багуцічы, Ельск.; Баравікі, Светл.; Гарадзец, Раг.; Івакі, Добр.). *Парайн.* шво́рня.

ШКІБІНДА́ЦЬ *незак.* кульгаць. Што ты шкібінда́еш? (Грушаўка, Нар.). *Парайн.* шкіндыба́ць.

ШКВЯРЭ́ЦЬ *незак.* пішчаць, хныкаць. Хопіць табе шквярэ́ць (В. Грыва, Б.-Каш.).

ШКІНДЫБА́ЦЬ *незак., тое, што* шкібінда́ць. Та корова стара, ногі больныя, дык толькі шкіндыба́е, а не ходзіць (Грушаўка, Нар.).

ШКЛО́БІЦЬ *незак., цясляр.* акорваць. Гэтакія роўныя калочкі і ты можаш шкло́біць, ано не лянуйся (Людзяневічы, Жытк.).

ШКЛО́БКА (ШКЛУ́БКА) *ж., цясл.* скобля. Шкло́бка ўжэ вутупілася, а колкоў шчэ багато трэбо (Людзяневічы, Жытк.); Шклу́бкой тэжэло стругат колоды (Грушаўка, Нар.). *Парайн.* шкрэ́бель.

ШКЛУ́НКА *ж. клунак.* Ты забрала свае шклу́нкі? (Зарэчча, Жлоб.).

ШКЛЮД *м., цясл.* склюд. Сення цяжко знайсці добры шклюд (Бялёў, Жытк.); Шклюдо́м цешуць брусы (Грышы, Ельск.+Баравікі, Светл.; Быч, Карм.; Вуглы, Нар.; Людзяневічы, Жытк.; Хізы, Ветк.; Чалюшчавічы, Петр.; Юравічы, Калінк.).

ШКЛЯ́НКІ *толькі мн.* шкло *(бітае)*. Пабіла банку, не хадзі, а то шкля́нкаў тут шмат (Хізы, Ветк.+Холмеч, Рэч.).

ШКЛЯ́НЦЫ *толькі мн.* страва *(з бульбы)*. Нава́рыць шкля́нцаў кожны вечар і ядзяць (Людзяневічы, Жытк.).

ШКЛЯ́ПКА *ж.* шкельца. Шкля́пка ў нагу залезла (Асінаўка, Чач.).

ШКО-ШКО-ШКО *пазыўн. свіней* (Стадолічы, Лельч.).

ШКО́БЛЯ *ж., перан.* жанчына *(худая)*. Ото така шко́бля, нічога нэ ест (Грушаўка, Нар.).

ШКРАБАКІ́ *толькі мн.* абутак *(стары)*. Чаго ты ходзіш у етых шкрабака́х, хіба няма лепшага абутку? (Запясочнае+Буйнавічы, Крупка, Маз.). *Парайн.* шкро́бы, шкрэ́гні, шку́рні.

ШКРА́БАЛКА *ж.* прыстасаванне для разграбання гною. Нясі шкра́балку, трэба тут разграбці гной (Бялёў, Жытк.).

ШКРА́БАЦЬ *незак.* 1. драпаць. Што там у вуглу шкрабае? (Багуцічы, Ельск.). 2. шаркаць. Ён ледзь шкра́баў па хаце (Н. Кузнечнае, Лоеўск.). *Параўн.* шкро́бацьь.

ШКРАБЦІ́ *незак., тое, што* шклабці́. Пара мо табе, мая дачка, шкрабці́ бульбу (Навінкі, Калінк.); Ты ж шкрабі́ бульбу, а не рэж, яна ж маладая (С. Рудня, Жлоб.+Амелькаўшчына, Хойн.; Галоўчыцы, Нар.; Гармавічы, Жлоб.; Заспа, Дземяхі, Рэч.; Калінін, Хойн.; Маркавічы, Гом.; Уць, Добр.).

ШКРАБО́К *м.* кельма. Лішнее гліны ніколі не астаецца. Шкрабко́м раўняюць сценку зверху (Людзяневічы, Жытк.).

ШКРО́БА *аг., неадабр.* гуляка. Вот цягаецца шкро́ба гэтая (Навасёлкі, Петр.).

ШКРО́БАЦЬ *незак., тое, што* шкра́бацьь *у 2 знач.* Перастань ты ўжо шкро́бацьь сваімі шкрабака́мі (Хальч, Гом.).

ШКРО́БЫ *толькі мн., тое, што* шкрабакі́. Дзе ты свае шкро́бы дзеў? (Камаровічы, Петр.). *Параўн.* шкрэ́гні, шку́рні.

ШКРЫГІТА́ЦЬ *незак.* квакаць. А ў вадзе, як цёпла, то жабы і пачынаюць шкрыгіта́ць (Чалюшчавічы, Петр.).

ШКРЫЛЁК *м.* скрылік *(сала)*. Парэж сала на шкрылькі́ (В. Нямкі, Ветк.).

ШКРЭ́БЕЛЬ *м., тое, што* шкло́бка. Падай мне, хлопча, шкрэ́бель (Аравічы, Хойн.).

ШКРЭ́БЛА *аг., перан., неадабр.* чалавек *(непаваротлівы, павольны, марудны)*. Шкрэ́бля такі яе Іван, што больш ужэ не можна, чуць ногі цягне (Ведрыч, Рэч.).

ШКРЭ́ГНІ *толькі мн., тое, што* шкрабакі́. Ён добрай абуўкі не бачыў, хадзіў у шкрэ́гнях ўсё жыццё (Шырокі, Б.-Каш.). *Параўн.* шкро́бы, шку́рні.

ШКУМА́Т *м. шматок.* Дзе які і шкума́т мацеры пападзе, дак яна занясе на гарэлку (Быч, Карм.).

ШКУ́МЯЦЬ *м.* ліцтва *(тканіны)*. Шку́мяць падшый, а то надта каротка (Палессе, Чач.).

ШКУРАПЕ́ЙКА *ж.* дзяўчына *(непаседа, свавольніца)*. Во шкурапе́йка проклятая, а не дзеўка (Палессе, Чач.).

ШКУРАТ *м.* рэмень. Шкура́ты дзілалі із аўчыннай скуры (Капань, Рэч.).

ШКУРАЦІНА *ж.* кусок рэменя. Ідзі шкура́ціны папрасі (Быч, Карм.).

ШКУРАЦЯНЫ′ (ШКУРОЦЯНЫ′) І *прым.* раменны. Булі раньшэй у богатых шкуроцяны́я постолы, а ў бедных дык з лыка (Стадолічы, Лельч.).

ШКУРАЦЯНЫ′ II шкурацяная мыш, лятучая мыш. Шкурацяна́я муш лётае (Ручаёўка, Лоеўск.).

ШКУРАЦЯНЯ′ *н.* дзіцяня (*кажана*). Саўсім маленькія шкурацяня́ты, шчэ, мо, і не летаюць (Ручаёўка, Лоеўск.).

ШКУРАЦЬ *незак.* лупцаваць. Шкура́ў мяне і бацька здорава, а я ўсіраўно ня пашоў боляй у школу (Быч, Карм.).

ШКУ′РНІ *толькі мн., тое, што* шкрабакі́. У хлеў у мене е шку́рні (Слабажанка, Хойн.). *Параўн.* шкро́бы, шкрэ́гні.

ШЛАГА *ж.* абшлаг. Замусоліў шла́гі так, што і ў жлукце не адмыеш (Вышамір, Рэч.).

ШЛАКАТАЦЬ *незак.* казытаць. Дзеці ўчора крычалі, шлаката́лі адзін другога (Глінішча, Хойн.).

ШЛАПАК *м.* гатунак (*яблык*). Во, паспее шлапа́к, дык крышні сушыць будзім (Шохаўка, Чач.+Р. Бурыцкая, Лоеўск.).

ШЛАПАТЫ *прым.* няўдалы. Цыган быў шлапа́ты (Бялёў, Жытк.).

ШЛЕЙКА *ж.* кашуля (*сподняя*). Бегае па хаце ў адной шле́йцы (Жгунь, Добр.).

ШЛЕНДАЦЬ *незак., неадабр., тое, што* шала́цца. Чаго ты шле́ндаеш? (Грушаўка, Добр.). *Параўн.* ша́стаць, шве́ндаць, швэ́ндацца, шлы́ндаць, шля́цца, шэ́ўкацца.

ШЛЁГ *у знач. выкл.* рэзкі ўдар. Шлёг дубцом каня, а ён брыкнуў (Задуб'е, Раг.).

ШЛЁГАЦЬ (ШЛЕГАЦЬ) *незак.* сцябаць, хвастаць. Перастаў бы ты ўжо шлёгаць гэтых коней (Тульгавічы, Хойн.); Сколькі ні шлёгай яго пугай, бегчы не будзе (Заспа, Хойн.); Шле́гаў каня, а ён стаіць як укопаны (Дарашэвічы, Петр.+Глінішча, Хойн.; Грушаўка, Добр.; Хізы, Ветк.).

ШЛЁГНУЦЬ *зак., аднараз.* сцебануць. Шлёгні яго добра (Глінішча, Хойн.).

ШЛЁН *м.* пух (*воўны*). За шлён даражэй плоцяць (Хізы, Ветк.).

ШЛЁП *у знач. выкл.* хутка сесці. Я шлёп на камень і сяджу (Быч, Карм.). *Параўн.* шуба́ль.

ШЛО́КАТ *м.* козыт. Ой, яна шло́кату баіцца (Бялёў, Жытк.); Яго так данялі шло́катам, што ўпаў нежывым (Ч. Паляна, Б.-Каш.+Кіцін, Жлоб.; Н. Гута, Гом.).

ШЛО́ПНУЦЬ *зак., экспр., тое, што* шара́хнуць. Ці цябе, хто шло́пнуў чым, што ты такі (Барталамееўка Ветк.). *Параўн.* шлэ́пнуць, шпо́кнуць.

ШЛУД *м., неадабр.* нягоднік. Не паўдыхаюць гэтыя шлуды́ (Макарычы, Петр.).

ШЛУ́НАК *м.* нутро. Што не дай кабану, не хоча есці, можэ, шлу́нак спорчаны (Знаменка, Ельск.+Стадолічы, Лельч.). *Параўн.* шлу́нкі, шлу́нне.

ШЛУ́НКІ *толькі мн., тое, што* шлу́нак. Усе шлу́нкі надарваў сабе, носячы каменне (В. Бор, Хойн.). *Параўн.* шлу́нне.

ШЛУ́НЕ (ШЛУ́НЯ) *н., тое, што* шлу́нак. Усё шлу́нне гарыць ад гэтае пітвы (Ломыш, Хойн.); Як не плачаш, дак закамянее ўсё шлу́нне (Палессе, Чач.): Пачалі разбіраць кабана, дак у его шлу́ння спорчана (Маканавічы, Рэч.); Ты там настаўнікам усё шлу́нне пераеў (Тульгавічы, Хойн.+Быч, Карм.; Задуб'е, Раг.; Заспа, Рэч.; Шохаўка, Чач.). *Параўн.* шлу́нкі.

ШЛЫ́ГАЛЫ *толькі мн., неадабр.* чаравікі. Ты ўжо новыя шлы́галы купіла? (Востраў, Раг.).

ШЛЫ́НДАЦЬ *незак., неадабр., тое, што* шала́цца. Дзе ты цэлы дзень шлы́ндаеш? (Сяліцкая, Добр.); Ты б толькі шлы́ндаў па вёсцы без дзела (К. Балсуны, Раг.+Грушаўка, Добр.; Крыўка, Раг.). *Параўн.* шве́ндаць, швэ́ндацца, шле́ндаць, шля́цца, шэ́ўкацца.

ШЛЫ́ХАЦЬ *незак.* слізгаць. Бацінкі вялікія, дак ногі шлы́хаюць (Грушаўка, Добр.).

ШЛЭ́ПАЦЬ *незак.* ісці *(валачы ногі).* Велікаватыя чобаты, але без клопату галава: шлэ́паю па гразі (Шарын, Ельск.).

ШЛЭ́ПНУЦЬ *зак., экспр., тое, што* шара́хнуць. Ты глядзі, а то так шлэ́пну, дзесятаму закажаш (Быч, Карм.). *Параўн.* шло́пнуць, шпо́кнуць.

ШЛЭ́ПТАР *м., неадабр.* валацуга. У, шлэ́птар, дзе ты толькі шалаешся, чорт знае (Быч, Карм.).

ШЛЮНЬ *м., толькі адз.* парадак. У мене ў хаці кругом шлюнь (Ельск).

ШЛЮ́ТА *ж.* слота. Такая шлю́та: ні снег, ні дождж (Быч, Карм.).

ШЛЯ́ГА I *ж.* біклага. Шля́гі поўныя паналіваюць крынічнай вадой, як на луг ідуць (Бялёў, Жытк.).

ШЛЯ́ГА II *ж.* лента *(на спадніцы)*. Уся спадніца шля́гамі ўнізе аздоблена (Лучыцы, Петр.).

ШЛЯ́МБЕР *м., цясл.* долата. Цяпер добрых шля́мбераў німа (Піркі, Браг.).

ШЛЯПА́НА (ШЛЯБА́НА) *ж.* канапа. На шляпа́ну была паслана мне пасцель (Гардуны, Добр.); Шляба́най мяккай хвалілася (Гарадзец, Раг.).

ШМАГА́ННЕ *зборн., н.* адзенне *(дробнае)*. Ой, пайду на рэчку трохі шмага́нне сваё пэрэмую (Хлупін, Жытк.).

ШМА́ЛЬЦ *м.* шмалец. У шма́льца ёсць і лячэбныя свойства (Уваравічы, Б.-Каш.); Поўну банку шма́льца маю (Калінічы+Вуглы, Нар.; Заходы, Лельч.). *Параўн.* шме́лец *у 1 знач.*

ШМА́РКАЦЬ *незак.* гаварыць. Хопіць, ты ўжо шма́ркаў, аж надаела (Камаровічы, Петр.).

ШМАТ *м.* скрутак *(палатна)*. У мене шчэ тры шма́ты ні рэзаныя у скрыні (Каравацічы, Рэч.).

ШМА́ТАЧКА (ШМА́ТОЧКА) *ж., памянш. да* шма́тка. Бярэце казанок шма́точкаю, бо вон вэльмі гарачы (Грушаўка, Нар.).

ШМА́ТКА *ж.*ануча. Дзе наша шма́тка, мо, падлогу памыю (Антонаў, Ельск.); Бяры шма́тку і памажы мост мыць (Хвойнае, Хойн.+Грушаўка, Нар.).

ШМАТО́К *м., тое, што* швардэ́лак. Вазьмі сабе ў школу шмато́к сала (Заспа, Рэч.). *Параўн.* шмандэ́лак, шты́каль.

ШМАЦЯ́НКА (ШМОЦ'Я́НКА) *ж.* посцілка *(даматканая са старызны)*. Шмоц'я́нкі шчэ летась ткалі (Грабава, Жытк.).

ШМЕ́ЛЕЦ *м.* 1. *тое, што* шмальц. Харошы твой шме́лец (Грушаўка, Добр.). 2. таплёнае сала. Коржыкі пячэш дык шме́льцу на скавараду пакладзі (Р. Бурыцкае, Лоеўск.); Сала многа наставіла тушыць, а шме́льцу атрымалася мала (Паселічы, Хойн.).

ШМО́ЦЦЕ *зборн., н., зневаж.* адзенне. Хопіць цягацца па дварэ, скідай сваё шмо́цце, да лезь на печ (Агароднікі, Калінк.).

ШМУ́ЛІЦЬ *незак.* церці, муляць, націраць. Ідзе і шму́ліць нага аб нагу (Белы Пераезд+Навасёлкі, Петр.).

ШМУ́НДЗЕЛ *м., спец.* вугольнік пад 45°. Два ву-

гольнікі сталяру трэба: прамы і шму́ндзел (Суткоў, Лоеўск.).

ШМЫГА́Й *м.* чалавек *(худы і высокі).* Вунь які шмыга́й вырас (Коўчыцы, Светл.).

ШМЫЛЯ'ЦЦА *незак.* бегаць. Шмыля́юцца яны цяпер усюды (Стаўбун, Ветк.).

ШНАР *м., ганчарн.* дошчачка *(пры дапамозе якой выраўніваюць горла пасудзіны).* Добры шнар трэба, каб добрэ выроўнёваць шыйку ў глечыку (Людзяневічы, Жытк.).

ШНУРАВА́ЦЬ (ШНУРОВА́ЦЬ) *незак.* адбіваць *(пас шнурам).* Скажы ему, шчо трэ кажнэ бервяно шнурова́ць да абсекваць (Людзяневічы, Жытк.).

ШНУРО́ЎКА (ШНЫРО́ЎКА) *ж.* 1. кашуля *(шнураваная).* У майго ўнука вельмі красівая шнуро́ўка ёсць (Крупейкі+Р. Каменева, Лоеўск.; Р. Марымонава, Гом.); Бачыце, пашыла сабе шныро́ўку добрую (Чыстыя Лужы, Добр.+Зладзін, Манчыцы, Маз.). 2. шнуроўка, шнур. Я шнуро́ўкай пад шыю, от красіва будзе (Халочча, Чач.).

ШНЫ'ПАРЫЦЬ *незак.* глядзець, выглядваць. Я толькі адвярнулася на мінутку, а ена ўжо і шны́парыць (Н. Кузнечнае, Лоеўск.).

ШО́ПА *ж., тое, што* шапа́рка. У Ігната ўся шо́па забіта сенам (Хракавічы, Браг.); Да хлява прыбудавалі шо́пу (Вуглы, Ельск.; Глінішча, Хойн.); На зіму сані, калёсы стаўляюць пад шо́пу (Аравічы, Хойн.); Калісь мы ўсё зярно веялі пад шо́паю (Бывалькі, Лоеўск.+Бялёў, Жытк.; Дземяхі, Рэч.; Р. Бурыцкая, Лоеўск.; Стадолічы, Лельч.; Хізы, Ветк.).

ШО́ТНІК *м., спец.* венцер. Возьмем шо́тнік з сабой на рыбу (Грушаўка, Нар.).

ШПАР I *м.* паз *(для рамы, бярвенняў і інш.).* Шпар — ета для моха, шпар выбіў, мох паклаў і палена другое кладзі (Халочча, Чач.); Штоб бірвяно плотна заходзіла ў вушняк, тады і выбіраюць шпар (Р. Шлягіна, Ветк.; Аляксандраўка, Калінк.); Няспорно маю хату шпараваць, бо шпа́ры глыбокія (Вуглы, Нар.; Халочча, Чач.); Для таго каб уставіць вокны, выбіраюць шпа́ры (Багданавічы, Карм.); Шпа́ры дзелаюць, каб мост быў роўны і шчыльны (Рудня, Чач.+Баравікі, Светл.; Гарадзец, Раг.; Гардуны, Добр.; Марозавічы, Б.-Каш.; Меркулавічы, Чач.; Раманавічы, Гом.; Хізы, Янова, Ветк.). *Парайн.* шпуг.

ШПАР II *м.* гульня *(дзяцей у класы)*. Пайшлі ў шпа́ра гуляць (Глінішча, Хойн.).

ШПАРАВА́ЦЬ *незак.* 1. выбіраць *(паз)*. Трэба шпарава́ць дошкі (М. Аўцюкі, Калінк.); Ён добра ўмее шпарава́ць (Марозавічы, Б.-Каш.+Баравікі, Светл.; Піркі, Браг.). 2. замазваць *(глінай пазы між бярвенняў)*. Я сёння весь дзень хату шпарава́ла (Вуглы, Нар.); Трэба сцены шпарава́ць (Бялёў, Жытк.).

ШПАРНІ́ЦА *ж., вет.* хвароба *(капытоў)*. Убілася шпарніца ў ногі целяці (Брынёў+ П. Гара, Петр.).

ШПАРО́ЎКА *ж.* пазоўка. Выемка паза шпаро́ўкай называюць у нас (Багданавічы, Карм.+Гарадзец, Раг.).

ШПАРО́ЎНІК *м.* шпунтубель. Шпаро́ўнік мае вузенька долотцэ і адзін размер бярэ (Стадолічы, Лельч.). *Параўн.* шпунтаві́к *у 1 знач.*, шпунто́ўнік.

ШПАРТАВА́ЦЬ *незак., экспр.* працаваць. Мы сёння шпартава́лі добра, а вы? (Крыўка, Раг.).

ШПА́РЫЦЬ *незак., экспр.* 1. ісці *(хутка)*. Гляджу, то ж Аркадзін сын шпа́рыць (Хамінка, Лоеўск.); Ну і шпа́рыць, як хто гоніць (Тонеж, Лельч.). *Параўн.* шурава́ць *у 2 знач.* 2. *перан.* ісці *(пра дождж)*. Ну і дождж сёння шпа́рыць (Дарашэвічы, Петр.+Дзякавічы, Жытк.; Марозавічы, Б.-Каш.).

ШПЕ́ТНЫ *прым., тое, што* ша́ткі. Наш сусед такі ўжо шпе́тны, нідзе не ўправішся за ім (Камаровічы, Петр.); Ой, якая шпе́тная дзевачка, ўміг дабегла (Стараселле, Добр.). *Параўн.* шві́дкі.

ШПО́КАНКА *ж., бат.* пузырнік. Поўны гарод шпо́канкі (Бабічы, Чач.).

ШПО́КНУЦЬ *зак., экспр., тое, што* шара́хнуць. Мне хтось як шпо́кнуў пад вуха, аж іскры з вачэй пасыпаліся (Віць, Хойн.). *Параўн.* шло́пнуць, шлэ́пнуць.

ШПО́НІЦЬ *незак.* злучаць дошкі *(шпонкамі)*. Ён хутка шпо́ніць і добра (Бялёў, Жытк.).

ШПО́НКА *ж.* 1. запінка. Я вон табе шпо́нкі парышывала (Р. Марымонава, Лоеўск.). 2. гузік *(самаробны, з нітак)*. З нітак дзелалі красівыя шпо́нкі (Багданавічы, Карм.); Усе шпо́нкі ад кохты пагубляла (Апанасаўка, Гом.+Быч, Карм.). 3. гафтачка. Паўз адзін бок было зроблена тры шпо́нкі (В. Стралкі, Раг.). 4. матузок. Цяпер рэдка са шпо́нкамі кашулю шыюць (Р. Марымонава, Лоеўск.). 5. *перан., неадабр.* дзяўчына *(малога росту)*. Сам вусокі, а ена шпо́нка (Каменка, Маз.).

ШПО́НЬКА *ж.* шпілька. Трэба шпо́ньку ўзяць пры-

шпіліць спадніцу. Нэма колы прышыват гузіка, прышчэпні шпóнькай (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* шпýлька.

ШПУГ *м., тое, што* шпар I. Пол сцеліцца ў шпуг (Карма, Добр.); Перш чым уставіць дно ў бочку, трэба выразаць шпуг (Уць, Добр.).

ШПУ'ГА *ж.* цвік *(драўляны)*. Васіль, зрабі некалькі шпýгаў (Забалацце, Раг.+Грышы, Ельск.; Маркавічы, Раманавічы, Гом.; Р. Шлягіна, Ветк.). *Параўн.* шпунтавік *у 2 знач.*

ШПУ'ЛЬКА *ж., тое, што* шпóнька. Дай шпýльку струмку дастаць (Бялёў, Жытк.); Купі ў магазіне штук пяць шпýлек (Багуцічы, Ельск.+Аравічы, Хвойнае, Хойн.; Харомцы, Акц.). // шпілька *(у валасы)*. Валасы раней шпýлькамі не заколвалі, а ўсё грабянцамі (Харомцы, Акц.+Бялёў, Жытк.).

ШПУ'НДЗЕР *г.* гульня *(дзяцей)*. Пойдзем у шпýндзер пагуляем (Барталамееўка, Ветк.).

ШПУНТАВІ́К *м.* 1. *тое, што* шпарóўнік. Шпунтавік не ў кожнага бывае (Дубраўка+Ч. Буда, Добр.). *Параўн.* шпунтóўнік. 2. *тое, што* шпýга. Шпунтавікі забі, то будзе добра (Пярэдзелка, Лоеўск.).

ШПУНТÓЎНІК *м., тое, што* шпарóўнік. Пазы ўналічніках выбіраюць шпунтóўнікам (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* шпунтавік *у 1 знач.*

ШПУРÓЎКА *ж.* адзенне *(верхняе)*. Нада пашыць новую шпурóўку (Забалацце, Раг.).

ШТАКÉТ (ШТАХÉТ, ШТЫКÉТ, ШЧАКÉТ, ШЧАХВÉТ, ШЧЫКÉТ) *м.* плот. На штакéт павесь радзюжку (Грушаўка, Нар.); Вунь бачыце новы штáхет, туды і ідзіце (Бялёў, Жытк.); У нас ва ўсіх пірад домам дзелаюць шчакéт, штоб цвяты ніхто ні мяў (Палессе, Чач.); Вунь Тарас свой гарод штыкéтам абнёс (Кароткавічы, Жлоб.); Васіль добрым шчахвéтам абгарадзіў двор (Засінцы, Ельск.+Забалацце, Раг.; Замосце, Калінк.; Зладзін, Маз.; Кажушкі, Хойн.; Насовічы, Добр., Неглюбка, Ветк.; Пярэдзелка, Лоеўск.; Салтанаўка, Б.-Каш.; Славань, Светл.; Стадолічы, Лельч.; Шылавічы, Чач.).

ШТÁЛТНЫ *прым.* стройны. Яна была дзевіца штáлтная (Перавессе, Ветк.). *Параўн.* шчыгýльны.

ШТАМБ *м., бат., сад.* ствол дрэва *(ніжняя частка)*. Штáмбы абязацельна ачышчаюць і беляць (Баравікі, Светл.).

ШТАНАВЫ' *прым.* палатняны. Штанавóе ў куфар калісь лажылі (Грабаўка, Жытк.).

ШТАНДА́РЫ *толькі мн.* бык *(апора)*. Сматра які мост, як вялікі, то ставяць і восім штанда́раў (Хізы, Ветк.). // *тое, што* шанда́лы. Штанда́ры само лепей каб з дубу (Прудок, Калінк); У маёй хаце мабуць штанда́ры падгнілі, бо нешта асела (Хутар, Светл.); Па вуглах хаты ставяць штанда́ры (Крынкі, Рэч.; Пянчын, Б.-Каш.+Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.; Бялёў, Жытк.; Гарадзец, Раг.; Глінішча, Хойн.; Грушаўка, Нар.; Дзяміды, Ельск.; Кароткавічы, Жлоб.; Косаль, Карм.; М. Аўцюкі, Калінк.; Піркі, Браг.; Рамановічы, Гом.; Р. Шлягіна, Ветк.; Холмеч, Рэч.; Чаплін, Лоеўск.). *Параўн.* шкада́ры, шканда́ры. // фундамент *(печы)*. Штанда́ры пад печчу харошыя трэба (Быч, Карм.).

ШТРЫ′ФЕЛЬ (ШТРЭ′ФЕЛЬ, ШТРЭ′ХЕЛЬ) *м.* гатунак *(яблык)*. Штры́фель і баравінка паспяваюць разам (Марозавічы, Б.-Каш.).; Яблыкі штрэ́хель такія бальшыя, красныя растуць (Пярэдзелка, Лоеўск.); Штрэ́фель — самыя лучшыя яблыкі (Насовічы, Добр.).

ШТРЫ′ФЛІК *м.* планка *(у разрэзе кашулі)*. Штры́флік у кашулі малы (Бабовічы, Гом.).

ШТУКА́НТ *м.* штукар, жартаўнік. Вельмі ўжо ўнук штука́нт (Гарадзец, Раг.+Заспа, Рэч.).

ШТУПО́ЎКА *ж.* шво *(страчное)*. Страчыць нада пад машынку, калісь звалі штупо́ўка (Дубраўка, Добр.).

ШТУРХА́Ч *м.* калатоўка. Еты кіёк, што б'юць масла, завуць у нас штурхачо́м (Заходы, Лельч.).

ШТЫ′КАЛЬ *м., тое, што* швардэ́лак. Калі б я з'еў добры шты́каль сала, дык напіўся б вады (Тульгавічы, Хойн.). *Параўн.* шмандэ́лак, шмато́к.

ШТЫЛЬ *м.* выступ *(у бярвеннях, якія ўваходзіць у паз)*. Еты ж во выступ у бярвеннях сцяны і будзе называцца шты́лем (Піркі, Браг.+Гарадзец, Забалацце, Раг.; Крынкі, Рэч.); Глядзі, каб шты́лі падышлі да пазоў (Н. Гута, Гом.).

ШУБА́ЛЬ *выкл. у знач. выказн., тое, што* шлёп. А я шуба́ль праз калёсы (Быч, Карм.).

ШУ′БІНКІ *толькі мн.* рукавіцы *(з футра)*. Не забудзь узяць шу́бінкі, а то рукі ў лясу пакалеюць (Ясень, Карм.).

ШУВЕ́ЙНЫ *прым.* пусты, бесталковы *(пра чалавека)*. Які ён шуве́йны (Дубраўка, Добр.).

ШУГАВЕ́Й *м., неадабр.* хлопец *(пусты, бесталковы)*. Малодшы быў іх шугаве́й (Ліскі, Рэч.).

ШУ'ГАНКА *ж.* гушкалка. У нас шу́ганка на дварэ вісіць (Чалюшчавічы, Петр.).

ШУЛА́К *м.* шула. Шула́к дзержыць сцяну (Дубраўка, Добр.); Ён прытуліўся да шулака́ (Ухоў, Ветк.). *Парайн.* шульня́к.

ШУЛЬНЯ'К *м., тое, што* шула́к. У адных дзвярах два шульнякі́ (Хізы, Ветк.).

ШУЛЯ'К I *м.* 1. *тое, што* шамля́к. Шулякі́ на боршч ідуць (Піркі, Браг.); У гэтым годзе мала добрай капусты, мнюга шулякóў (Багуцічы, Ельск.). *Парайн.* шапля́к II, шаўля́к. 2. *перан.* чалавек *(хілы, слабы).* Вой, шуля́к саўсім (Багуцічы, Ельск.). 3. анучнік. Стары шуля́к збірае анучы (Бабовічы, Гом.).

ШУЛЯ'К II *м.* коршун. Шуля́к — гэта коршун чорны (Лядцы, Светл.). *Парайн.* шуля́н.

ШУЛЯ'Н *м., тое, што* шуляк II. У небе ляцеў шуля́н. Шуля́н схапіў маё кураня (Камаровічы, Петр.).

ШУЛЯЧÓК I *м., памянш. да* шуля́к I *у 1 знач.* Шулячкі з бурачкамі пасячом у дзежку (Грушаўка, Нар.).

ШУЛЯЧÓК II *м., памянш.* сава. Шулячóк робіць кубло на веліком дзераві (Ліпляны, Лельч.); Мы маленького соўку шулячкóм зовём (Бялёў, Жытк.+Грушаўка, Нар.).

ШУМ *м.* 1. смецце. Пасля павадку многа шу́ма да берагу прыбівае (Чалюшчавічы, Петр.); Валодзя, пайшлі шум сабяром з двара да вынесем (Леніна, Хойн.). *Парайн.* шу́ма *ў 1 знач.* 2. пена *(на сырадоі).* Ваша карова поўнае ведро малака дае.— Не, оно ж з шу́мам (Бялёў, Жытк.). *Парайн.* шу́ма *ў 2 знач.*

ШУ'МА *ж.* 1. *тое, што* шум *у 1 знач.* Размуцяць ваду дзеці ў балцы, дак бялізну нельга паласкаць з-за шу́мы (Дубраўка, Добр.). 2. пена *(на варэнні, пры мыцці бялізны).* Знімі шу́му з варэння (Неглюбка, Ветк.); Як сціраеш што-небудзь, дак тады шу́ма ад мыла ці парашку (Хізы, Ветк.+Малынічы, Чач.). 3. дробнае сена, салома. Хлеў за зіму апусцеў, засталася толькі шу́ма (Сухавічы, Калінк.+Пагоннае, Хойн.).

ШУМІ́ЛА *м.* заяц *(спуджаны).* Шумі́ла як выскача з-пад куста, да як пабяжыць (Стаўбун, Ветк.).

ШУ'МЯЦЬ *ж.* мякіна. Прынясі ў хлеў шу́мяці з гумна (Хальч, Ветк.); Шу́мяці вазоў два завезлі ў кароўнік падаслаць (Дзвіжкі, Ельск.).

ШУ'ПІК *м.* яйка *(пабітае аб другое, велікоднае).* Пабітае яйцо ў нас так завуць. Кажуць, як паб'ецца, дык

шу́пік (Хізы, Ветк.); Зноў шу́пік быў у мяне (Забалацце, Раг.).

ШУ′ПІЦЬ *незак.* разумець. А яна ў цябе ўжо штось шу́піць (Хальч, Ветк.+Аравічы, Хойн.; Грушаўка, Нар.).

ШУ′ПЛАЦЦЕ *зборн., н.* пажыткі. Убірайце якое шу́плацце хутчэй, а то ўсё згарыць (Быч, Карм.+Дубраўка, Добр.).

ШУР-ШУР-ШУР *пазыўн. авечак.* Шур-шур-шур, мае маленькія (Багданавічы, Карм.+Халочча, Чач.). *Парайн.* шу́ркі-шу́ркі, шут-шут, шу́тка-шу́тка, шу́шка-шу́шка.

ШУРАВА́ЦЬ *незак.* 1. малаціць *(лён)*. Сённі мы пойдам лён шурава́ць (Быч, Карм.). 2. *экспр., тое, што* шпа́рыць *у 1 знач.* Ён шу́руе да суседа (Н. Кузнечнае, Лоеўск.). 3. *перан., асудж.* траціць *(грошы)*. Прывыкла шурава́ць чужымі грашыма (Дубраўка, Добр.).

ШУРА́К (ШУРЯ′К, ШУР'Я′К) *м., тое, што* шваго́р. То ж шура́к (Мілашэвічы, Лельч.); Шуря́к мой добры чалавек (Неглюбка, Ветк.); Майму шар′яку́ нядаўна ордзен далі (Краўцоўка, Гом.+Велін, Маканавічы, Рэч.; Дубраўка, Ч. Буда, Добр.). *Парайн.* шу́рын.

ШУРБА́К *м.* цурбан. Шурба́к атрэж мне (Неглюбка, Ветк.).

ШУ′РКА *ж., тое, што* шва́я. Цэлую шу́рку спаліў, а холадна (Марозавічы, Б.-Каш.); Прывёз шу́рку дроў (Бабовічы, Гом.+Аравічы, Хойн.; Бярозкі, Гом.; Кароткавічы, Жлоб.; Ларышчава, Добр.; М. Аўцюкі, Калінк.; Піркі, Браг.; Чалюшчавічы, Петр.). *Парайн.* швыро́к.

ШУ′РКІ-ШУ′РКІ *выкл., тое, што* шур-шур. Пакліч шу́ркі-шу́ркі (Карма, Добр.). *Парайн.* шут-шут, шу́тка-шу́тка, шу́шка-шу́шка.

ШУТ-ШУТ *выкл., тое, што* шур-шур. «Шут-шут» — так маняць у нас авечак (Халочча, Чач.+Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* шу́ркі-шу́ркі, шу́тка-шу́тка, шу́шка-шу́шка.

ШУ′ТА *ж.* карова *(бязрогая)*. У нас у прошлым году шу́та була (Стадолічы, Лельч.). *Парайн.* шу́ты *ў 2 знач.*

ШУ′ТАЧКА-ШУ′ТАЧКА *выкл., пазыўн. ягнят.* Шу́тачка-шу́тачка мая, хадзі сюды (Бялёў, Жытк.).

ШУ′ТКА *ж.* ягня. Схадзі, Колька, шу́тку выпусьць на двор, хай пабегае (Шалыпы, Калінк.).

ШУ′ТКА-ШУ′ТКА *выкл., тое, што* шур-шур. «Шу́тка-

шу́тка» — так клічуць авец (Бялёў, Жытк.). *Парайн.* шут-шут, шу́ркі-шу́ркі, шу́шка-шу́шка.

ШУТКАВА́ЦЬ *незак.* жартаваць. От вясёлы чалавек, шутку́е, смешыць людзей (Багуцічы, Ельск.).

ШУ'ТЫ *прым.* 1. бязрогі. Мая карова шу́тая (Ляд-цы, Светл.). 2. *у знач. наз., тое, што* шу́та. Сёння гэта шу́тая цэлы дзень пралазіць да жыта (Халочча, Чач.).

ШУ'ФЛЯ (ШУ'ХЛЯ) *ж.* шуфель. Бяры шу́флю і насыпай бульбу (Ухоў, Ветк.); Вазьмі шу́хлю ды ідзі разгружаць зярно (Гарадзец, Раг.); Бульбу насыпаюць шу́хляй (Стаўбун, Ветк.+Аравічы, Валокі, Хвойнае, Хойн.; Бабовічы, Маркавічы, Гом.; Багуцічы, Ельск.; Быч, Ліцвінавічы, Карм.; Вітаў, Жлоб.; Дземяхі, Чарнейкі, Рэч.; Міхалёўка, Лоеўск.; Пучын, Браг.).

ШУ'ХНУЦЬ *зак., экспр., тое, што* ша́мнуць. Не хадзі там, дачушка, бо як шу́хнеш і намочышся (Кіцін, Жлоб.). *Парайн.* шчабо́ўкнуць.

ШУ'ШКА-ШУ'ШКА *выкл., тое, што* шур-шур. «Шу́шкі-шу́шкі»,— маніла авечак (Багуцічы, Ельск.). *Парайн.* шу́ркі-шу́ркі, шут-шут, шу́тка-шу́тка.

ШЧАБО́ЎКНУЦЬ *зак.* сказаць *(лішняе),* прагаварыцца. Ты ў мяне толькі шчабо́ўкні (Параслішча, Акц.).

ШЧАБО́ЎКНУЦЦА *зак., экспр., тое, што* ша́мнуць. Яна адразу шчабо́ўкнулася ў ваду і ўсё (Шылавічы, Чач.). *Парайн.* шу́хнуць.

ШЧАБЯТА́ЦЬ *незак., ласк., перан.* гаварыць. Яна цэлы вечар нам шчабята́ла ўсё (Н. Кузнечнае, Лоеўск.).

ШЧАДРАВА́ННЕ *н., уст.* шчадрэц. На шчадрава́нне к нам з Ляксандраўкі прыязджаюць (М. Аўцюкі, Калінк.). *Парайн.* шчадро́ўка, шчадро́ўкі *ў 1 знач.*, шчадру́ха.

ШЧАДРАВА́ННІК *м., уст.* хто шчадруе. Шчадрава́ннікі шчадруюць (Дубраўка, Добр.). *Парайн.* шчадро́ўнік.

ШЧАДРАВА́ЦЬ *незак., уст.* хадзіць па хатах на шчадрэц. Збяромся ўсе гуртам і пойдзем шчадрава́ць (Бабовічы, Гом.+Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.; Баравое, Лельч.; Беразнякі, Петр.; Бялёў, Жытк., Гарывада, Рэч.; Крыўск, Б.-Каш.; Ліпнякі, Лоеўск.; Ломыш, Хойн.; М. Аўцюкі, Калінк.; Халочча, Чач.).

ШЧАДРО́ВЫ: шчадро́вая куцця. *уст.* На шчадро́вую куццю ядуць мяса і сала (Неглюбка, Ветк.).

ШЧАДРО́ЎКА *ж., уст., тое, што* шчадрава́нне. На шчадро́ўку ходзяць па хатах з песнямі (М. Аўцюкі, Ка-

лінк.+Дубраўка, Добр.). *Параўн.* шчадро́ўкі *ў 1 знач.*, шчадру́ха.

ШЧАДРО́ЎКІ *толькі мн., уст., тое, што* шчадрава́нне. Шчадро́ўкі весела праходзілі, цяпер не так (Беразнякі, Петр.+Стаўбун, Ветк.). *Параўн.* шчадро́ўка, шчадру́ха. 2. песні, якія пяюць на шчадрэц. Шчадру́юць з шчадро́ўкамі (Гарывада, Рэч.).

ШЧАДРО́ЎНІК *м., уст., тое, што* шчадрава́ннік. Шчадро́ўнікі пяюць, скачуць (Крыўск, Б.-Каш.); Шчадро́ўнікі вадзілі казу, надзяваліся ў цыган, пелі песні (Глінішча, Хойн.+Баравікі, Светл.; Беразнякі, Петр.; Гарывада, Рэч.; Халочча, Чач.).

ШЧАДРУ'ХА *ж., уст., тое, што* шчадрава́нне. У нас на шчадру́ху з торбаю па хатах ходзюць (Баравое, Лельч.+Глінішча, Ломыш, Хойн.; Крыўск, Б.-Каш.; Ліпнякі, Лоеўск.; Холмеч, Рэч.; Баравікі, Светл.). *Параўн.* шчадро́ўка, шчадро́ўкі *ў 1 знач.*

ШЧАЛЬ *м.* бочка. Раней, калі сем'і былі вялікія, гуркі складалі ў шча́лі (Баравікі, Светл.). *Параўн.* шча́нік, шча́нка, шчань, шча́ня.

ШЧАМІ́ЦЦА *незак.* пралазіць. Ну куды ты шчамі́шся, тут і так поўна народу (Пакалюбічы, Гом.).

ШЧАМЕ́ЛЬ *м.* шмель. Глядзіце, дзеўкі, бо шчаме́ль укуся (Харашэвічы, Петр.+Марозавічы, Б.-Каш.).

ШЧА́НІК (ШЧА́ННІК) *м., тое, што* шчаль. От, бяда, у мяне рассыпаўся шча́нік, няма куды гуркі складаць (Макарычы, Петр.); Наложым на зіму адзін шча́нік капусты (Антонаўка, Добр.); Падчатуй шча́нік шычас, сало буду лажыць (Барталамееўка, Ветк.+Камаровічы, Петр.). *Параўн.* шча́нка, шчань, шчэ́ня.

ШЧА́НКА *ж., тое, што* шчаль. Я на базары шча́нку купіў (В. Стралкі, Раг.). *Параўн.* шча́нік, шчань, шчэ́ня.

ШЧАНЬ *м., тое, што* шчаль. Шчань такі на ведзер трыццаць (Холмеч, Рэч.); Я наложыла цэлы шчань агурцоў (Ручаёўка, Лоеўск.+Антонаў, Багуцічы, Ельск.; Аляксандраўка, Хобнае, Калінк.; Бобрык, Чалюшчавічы, Петр.; Заспа, Холмеч, Рэч.; Махнавічы, Маз.; Паганцы, Святое, Светл.; Піркі, Браг.; Харомцы, Акц.). *Параўн.* шча́нік, шча́нка, шчэ́ня.

ШЧАПО́К *м.* кручок. Зашчапі на шчапо́к дзверы (Грабаўка, Гом.); Унутры дзверы шчапко́м прыкрый (Раманавічы, Гом.+Заходы, Рэч.; Карма, Насовічы, Добр.; Р. Шлягіна, Ветк.).

ШЧАПТА́ *толькі адз., ж.* дробка, крышка, нязначная колькасць, чуць-чуць. Дай адну шчапту́ солі (Піркі, Браг.). *Параўн.* шчы́пцік, шчэ́пці.

ШЧАРБЕ́ЛЬ *м. неадабр.* чалавек *(шчарбаты)*. Шчарбе́ль еты ўсе зубы пагубіў, няма чым есці (Каменка, Маз.); Здаецца, шчарбе́ль, а арэхі толькі падавай (Гарадзец, Раг.).

ШЧУП *м.* труп. Нашлі ў лесе яе шчуп (Баравікі, Светл.).

ШЧУ'ПАРКА *ж.* шчупак *(невялікі)*. Налавіў шчу́парак (Неглюбка, Ветк.).

ШЧУ'РА *м.* пацук. І адкуль гэтыя шчу́ры бяруцца ў каморы (Грушаўка, Нар.).

ШЧУРАНЯ' *н.* дзіцяня пацука. Шчураня́та ў нарэ выводзяцца (Засінцы, Ельск.).

ШЧУРЫ'НЫ *прым.* пацучыны. Шчуры́ныя норы пад пянькамі, пад дзеравамі (Засінцы, Ельск).

ШЧУРЫ'ХА *м.* самка пацука. Шчуры́хі такія самыя як шчуры (Засінцы, Ельск.).

ШЧУ'ХА *ж.* блюзна. Парва́лася нітка ў аснове, і шчу́ха палучылася (Ма́розавічы, Б.-Каш.+В. Стралкі, Раг.; Хізы, Ветк.).

ШЧУ'ЦЦА *зак.* здаволіцца. Ужэ столькі сена накасіў, можа шчу́ецца (Палессе, Чач.).

ШЧЫ'ГА *ж.* шчыгол. Якая прыгожая шчы́га (Неглюбка, Ветк.).

ШЧЫГО́ЛЬНА (ШЧЫГО́ЛЬНО) *прысл.* акуратна, з густам. От ужэ шчыго́льно прыбралася да й пошла на скокі ў клуб (Стадолічы, Лельч.).

ШЧЫГУ'ЛЬНЕНЬКА *прысл.* мала, абмежавана. Насця як дзяжурыць, дак шчыгу́льненька порцыю дасць (Слабажанка, Хойн.).

ШЧЫГУ'ЛЬНЫ *прым., тое, што* шта́лтны. А дзеўка мне падабаецца, шчыгу́льная такая і прыгожая (Ветка).

ШЧЫК *м.* 1. вярхушка *(дрэва, коласа)*. Глядзі, не абламай шчык (Славань, Светл.); Гледзі, а белка залезла на самый шчык (Макарычы+Дарашэвічы, Петр.); Бяры за шчы́кі, калоссе сухое (Чарнейкі, Рэч.). *Пара́ўн.* шчы́кавіна, шчыт *у 1 знач.*, шчыто́к. 2. макушка *(галавы)*. От у дзеда муго на шчы́ку дзве лысінкі було (Чалюшчавічы, Петр.).

ШЧЫ'КАВІНА *ж., тое, што* шчык *у 1 знач.* Шчы́кавіна высока і хароша (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* шчыт *у 1 знач.*, шчыто́к.

ШЧЫ'КАВІЦА *ж.* трава *(першая).* Выйшлі каровы пасля зімы на шчы́кавіцу (Дзвіжкі+Антонаў, Ельск.).

ШЧЫПУ'ШКА *толькі мн.* падушачкі *(пальцаў).* Якія ў цябе шчыпу́шкі мяккія (Бабовічы, Гом.). *Парайн.* шыпу́шка.

ШЧЫ'ПЦІК *м., толькі адз., тое, што* шчапта́. Солі вазьмі не шчы́пцік, а ложку (Хізы, Ветк.). *Парайн.* шчэ́пці.

ШЧЫРАВА́ЦЬ *незак.* працаваць *(шчыра).* Чаго ты так шчыру́еш? (Махнавічы, Маз.); Як яна ўсё шчыру́е (Піркі, Браг.).

ШЧЫРА́Й *м.* пустазелле. Паўрывай шчыра́й ля хаты (Пучын, Браг.).

ШЧЫРЭ'Й *м.* жаўтазем. Такія мясціны ёсць, што нічога не расце, адзін шчырэ́й там (Дубраўка, Добр.). *Парайн.* шчырэ́ц, шырэ́ц.

ШЧЫРЭ'Ц *м., тое, што* шчырэ́й. Вунь у нас на горцы зусім адзін шчырэ́ц (Макарычы, Петр.); Цю каструлю нічым нэ домыеш, хіба толькі шчырцо́м (Грушаўка, Нар.+Насовічы, Добр.). *Парайн.* шырэ́ц.

ШЧЫТ *м.* 1. *тое, што* шчык *у 1 знач.* Шчыт усох (Вышалоў, Петр.+Глінішча, Хойн.; Піркі, Браг.; Прудок, Калінк.). *Парайн.* шчы́кавіна, шчыто́к. 2. радзімец. У маленькага дзіцяці шчыт саўсім мягенькі (Глінішча, Хойн.).

ШЧЫТА́ЛА *аг.* учотчык. А шчыта́ла нашчытаў, што трэба болей палоць (Амельно, Раг.).

ШЧЫТО́К *м., тое, што* шчык *у 1 знач.* Во які вецер, зламаў шчыто́к у старой ігрушы (Коўчыцы, Светл.). *Парайн.* шчы́кавіна, шчыт *у 1 знач.*

ШЧЫ'ШЧАНЫ *прым., вет.* кастрыраваны. Шчы́шчаны кабан добра есць (Піркі, Браг.).

ШЧЭ'ЛЕПАК *м., іран.* вісок. Ударыўся шчэ́лепкам (Чалюшчавічы, Петр.).

ШЧЭ'ЛЬНІК *м.* соты. Пчолы з воску будуюць шчэ́льнік (Бялёў, Жытк.).

ШЧЭЛЯ'ПІНЫ *толькі мн.* сківіцы. Еў, аж за шчэля́пінамі трэск шоў (Холмеч, Рэч.).

ШЧЭ'НЯ *ж., тое, што* шчаль. Ды не, шчэ́ня каля хлеву стаіць (Грушаўка, Нар.). *Парайн.* шча́нік, шча́нка, шча́нь.

ШЧЭ'ПЦІ *толькі мн., тое, што* шчапта́. Вазьмі шчэ́пці солі (Неглюбка, Ветк.+Палянкі, Добр.). *Парайн.* шчы́пцік.

ШЫ'БЕННЫ *прым., экспр.,* рухавы, вёрткі *(пра чалавека).* Гэткі шы́бенны хлопец (Палессе, Чач.).

ШЫ'БКА (ШЫ'БКО) I *прысл., тое, што* швы́дка. Шы́бка не едзь, а то конь змарыўся (Карма, Добр.); От ідзе шы́бко, што машына (Бярэзнікі, Жытк.+Бесядзь, Ветк.).

ШЫ'БКА II *прысл.* вельмі. Шы́бка смачная бульба (Бесядзь, Ветк.).

ШЫБУ'НАК *м.* вайна, грозныя падзеі. Жыць добра, абы шыбу́нку не было (Турок, Петр.).

ШЫ'ГАЛЬ (ШЫ'ГОЛЬ) *зборн., м.,* ігліца. Пойдзем па шы́галь, а то шчэ дождж будзе (Палессе, Чач.); Шы́голь мы собіраем увосень на подсціл корове (Бялёў, Жытк.+Неглюбка, Ветк.; Салтанаўка, Б.-Каш.). *Парайн.* шы́галле *ў 1 знач.,* шы́лальнік.

ШЫ'ГАЛЛЕ *зборн., н.,* 1. *тое, што* шы́галь. До обеда штоб нагрэбла шы́галля, а то тэлятам нэ будэ подсцёлу (Грушаўка, Нар.+Грушаўка, Добр.). *Парайн.* шы́лальнік. 2. кустарнік *(лазы).* Шы́галля прывязе якога, дак яно цьме, а не гарыць (Быч, Карм.+Бабовічы, Гом.). *Парайн.* шылёга *ў 2 знач.*

ШЫДЭ'ЛАК *м., тое, што* шадэ́лка. Гэтая кохта зроблена маім шадэ́лкам (Салаўёў, Б.-Каш.+В. Стралкі, Раг.; Чалюшчавічы, Петр.). *Парайн.* шведэ́лак, швыдэ́лка, швындэ́лка.

ШЫ'ЙКА *ж. перан.* закомінак. Вазьмі гладышку ў шы́йцы (Глінішча, Хойн.)

ШЫ'ЛАЛЬНІК *зборн., м., тое, што* шы́галь. Шы́лальнік насцілаем парасятам (Насовічы, Добр.). *Парайн.* шы́галле.

ШЫЛЁГА (ШЫЛЯ'ГА) *ж.* 1. лаза. Нічога так не расце добра ў етых Тульгавічах, як шыля́га (Ломыш, Хойн.+Вуглы, Ельск.; Сяўкі, Лоеўск.; Чалюшчавічы, Петр.). *Парайн.* шы́льга, 2. *тое, што* шы́галле *ў 2 знач.* Карова ў шылёгу кудысь пабегла (Сяўкі, Лоеўск.).

ШЫ'ЛЬГА *ж., тое, што* шылёга *ў 1 знач.* З шы́льгі добрая дудка будзе (Піркі, Браг.).

ШЫЛЬГО́ВЫ *прым.* лазовы. Шыльго́вых галінак прынесі (Піркі, Браг.).

ШЫНКАВА́ЦЬ *незак.* шаткаваць *(капусту).* А я яшчэ сваёй капусты не шынкава́ла (Даманавічы, Калінк.); Тугія качаны шынку́юць, а шаўлякі кладуць на дно дзежкі (Капараўка, Рэч.+Багданавічы, Карм.).

ШЫНЭ'ЛІКІ *толькі мн.* бульба *(у мундзірах).* Пры-

ду ў госці, навары шынэлікаў, успомнім вайну, як му елі (Н. Дуброва, Акц.).

ШЫПЕ́ХАМ (ШЫПЕ́ХОМ) *прысл.* кучна, многа. На етай орэшыні спелых орэхаў шыпе́хом на ўсіх галінах (Стадолічы, Лельч.).

ШЫПУ́ШКА *ж.* 1. *тое, што* шчыпу́шка. Шыла, шыла ды шыпу́шку ўкалола (Баравікі, Светл.); Палола буракі, дак шыпу́шкі забалелі (Кароткавічы, Жлоб.); Коле ад марозу ў шыпу́шкі (Зялёныя Лукі, Гом.+Броніца, Марозавічы, Б.-Каш.; Дубраўка, Добр.; Забалацце, Раг.). 2. канец яйца *(тупы)*. Падставіў шыпу́шку на ўбіткі (Забалацце, Раг.).

ШЫРАЧЭ́ЗАЗНЫ *прым.* самы шырокі. Гарод у іх шырачэ́зазны (Ніўкі+Дубраўка, Добр.; Шырокі, Б.-Каш.).

ШЫРЭ́Ц *м., тое, што* шчырэ́й. У нас адзін шырэ́ц (Камаровічы+Макарычы, Петр.). *Параўн.* шчырэ́ц.

ШЫ́ТАЛЬ *м.* каўнер. Ён жонку за шы́таль і з двара (Быч, Карм.).

ШЭ́ЎКАЦЦА *незак., неадабр., тое, што* шала́цца. Дакуль ты будзеш шэ́ўкацца (Тураў, Жытк.). *Параўн.* ша́стаць, шве́ндаць, швэ́ндацца, шле́ндаць, шлы́ндаць, шля́цца.

ШЭ́РАНЬ *м., тое, што* шаро́ша. Пад вечар з'явіўся шэ́рань (М. Аўцюкі, Калінк.+Дарашэвічы, Петр.). *Параўн.* шарэ́ш I.

## Э

ЭЛЕКТРЫ́ЧКА *ж.* лямпа *(электрычная)*. Э́лектры́чка перагарэла (Хвойнае, Хойн.).

ЭСТАКА́ДАЎШЧЫК *м.* чалавек *(які працуе на эстакадзе)*. Эстака́даўшчык треба каб добра знаў сваю работу (Ельск, Гом.).

## Ю

Ю́КНУЦЬ *зак.* грукнуць. Нешта там у сенях ю́кнула (Грушаўка, Нар.).

Ю́НУШ *м.* хлопец. Ю́нуш паехаў на кані (Бабічы, Чач.).

ЮРО́К I *м., заал.* птушка *(палявая)*. Юро́к усё гудзе і гудзе (Хізы, Ветк.); Ну, юро́к, такі маленькі, вяртлявы (Вялікае Поле, Петр.); Юро́к усегда крычыць юр-

юр, паэтаму яго і называюць так (Баравікі, Светл.+Дубраўка, Добр.).

ЮРО́К II *м., ткацк.* прыстасаванне *(для звівання пражы ў клубок)*. Юро́к — гэта палачка такая з прараззю і дзірачкамі на канцах, у якія ўсаджуюць нітку і матаюць у клубок (Сівенка, Ветк.); Юро́к быў дрэнны і ніткі матаць было вельмі цяжка (Крапіўня, Рэч.); Без юрка́ пальцы рэжуцца, а юрко́м добра (Марозавічы, Б.-Каш.); Без юрка́ матала, ніткі закручаныя (Кірава, Жлоб.); Не, ні кожны юрко́м будзе матаць. Але ж ім вельмі лоўко матаюцца ніткі, толькі трэбо навучыцца (Асінавічы, Нісімкавічы, Чач.+Аравічы, Хойн: Бабовічы, Гом.; Барталамееўка, Ветк.; Быч, Карм.; Вуглы, Ельск.; Вялікае Поле, Петр.; Грушаўка, Нар. ; Дзвіжкі, Ельск.; Каравацічы, Рэч.; Холмеч, Рэч.+Бабічы, Чач.; Мікулічы, Браг.; Асарэвічы, Браг.; Усох. Буда, Добр.; Глінішча, Хойн.).

ЮСЬ *выкл., вокліч, якім адганяюць свіней.* Юсь у хлеў, а то ўвесь двор перарылі (Халочча, Чач.). Юсь-юсь-юсь, пайшлі ў хлеў, а то двор перарылі (Халочча, Чач.); Юсь-юсь-юсь, пайшлі ў хлеў (М., Аўцюкі, Калінк.).

ЮХА́ I *ж., кул.* халадзец. Паглядзі, ці не застыла юха́ (Макарычы; Петр.); Наварыла юхі́ аж пяць місак, хто яе і паесь (Хобнае, Калінк.); Вараць юху́ з мяса з косткамі, бо без костак не застыне (Чалюшчавічы, Петр.+Бялёў, Жытк.; Хатуча, Браг.). *Параўн.* юшні́к.

Ю́ХАЛКА *ж., кул., тое, што* юха́. Ю́халка цяпер не ўдалася, нема перцу, часноку (М., Малішаў, Жытк.).

ЮХТА I *ж.* ю́шка. Купіла новую ю́хту ў комін (Дзяржынск., Нар.).

Ю́ХТА II *ж.* бялізна *(мокрая)*. Узяў бы гэтую ю́хту ды табе па вачах (В., Грыва, Б.-Каш.).

Ю́ШКА *ж., ткацк.* прыстасаванне *(для матання ніттак)*. Ю́шка то высокая, круглая, яе маталі, а пасля ўзвешвалі (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* ю́шкі.

Ю́ШКІ *толькі мн., тое, што* ю́шка. Ю́шкі — круглыя, чатырохвугольныя, на іх снуюць ніткі (Бабовічы, Гом.).

ЮШНЕ́К., *м., кул., тое, што* юха́. Еще юшні́к свежы добрэ (Грабава, Жытк.); Заўтра Міхайло, трэба ж юшніку́ зварыць (Ляскавічы, Петр.+Балажэвічы, Маз.).

Ю́ШЫЦЬ *незак.* абіваць. Пакладуць снапы на ток і ю́шаць цапамі. Ю́шылі-ю́шылі цапамі, што і рукі забалелі (Палессе, Чач.).

Я́БЛЫЧКА *н., памянш.,* кадык. А то яшчэ я́блычка на кадык у нас кажуць (Усох. Буда, Добр.); У жанчын же я́блычка нема, гэта то́лькі ў вас яно (Юравічы, Калінк.).

ЯВА́НГАЛІЕ *н., уст.* кніга *(царкоўная).* Цяпер ужо ява́нгаліе ні ў кога не знойдзеш (Усох. Буда, Добр.).

ЯВАРО́К *м., бат.* тополя. Ох, бедныя яваркі, аж пасохлі (Асарэвічы, Браг.).

ЯВО́Р *м., бат.* явар. У нас мало етого яво́ру, толькі два кусты расце (Стадолічы, Лельч.).

Я́ГАДА *ж., толькі адз., кул.* кампот *(з ягад).* На первую куццю я́гада з сушоных чарніц була. Я́гаду апасля ўсяго ставілі на стол. Я́гаду трэба толькі з чарніц варыць (М. Аўцюкі, Калінк.). *Параўн.* яго́дніца.

Я́ГАДКА *ж.* скула. Мароз хваціў, ды за самую я́гадку (Чачэрск).

Я́ГАДКІ *толькі мн.* шчокі. Я́гадкі разгарэліся (Бабовічы, Гм.); Прыгожы чалавек, я́гадкі ўсягды гарацьі (Неглюбка, Ветк.); Шчокі, кажуць, розавыя, розавыя. Ой, я́гадкі якія красныя ў іе (Дубраўка, Добр.+Асарэвічы, Браг.).

ЯГЛІ́ЦЬ *незак.* хацець *(прагна).* Ён усё ягліць сам зрабіць (Неглюбка, Ветк.).

ЯГО́ДНІК *м.* ягаднік *(чарніц).* Мы тым летам нашлі ў яго́дніку падасінавікі (Ламавічы, Акц.).

ЯГО́ДНІЦА *ж., кул., тое, што* я́гада. Дзеўкі, хадзіце есці яго́дніцу (Дарашэвічы, Петр.).

ЯГО́Р'ЕЎ ДЗЕНЬ (ЯГОР'ЯЎ ДЗЕНЬ) *м.* рэлігійнае свята. Яго́р'яў дзень дваццаць трэцяга апрэля. На Ягор'я кадась на ярмалак у Холміч ездзілі (Ліпнякі, Лоеўск.).

Я́ГРУС (Я́ГРУСТ) *м., бат.* агрэст. Выкарчавалі мы ўвесь я́грус. Што-та не радзіў ён у нас (Раманавічы, Гом.); Я́грус у нас ёсць розавы, зялёны, жоўты выкапаў у лесі, дак яго парша брала — выкінуў (Дубраўка, Добр.); Кусты я́грусу калючыя і вялікія (Саўгасная, Б.-Каш.+Асарэвічы, Браг.; Бабічы, Чач.; Усох. Буда, Добр.); Пакалола я́грустам рукі (Ст. Буда, Б.-Каш.).

Я́ДКІ *прым.* апетытны. Сена з сенажаці я́дкое (Марозавічы, Петр.).

Я́ДРАНЕ́Ц *м., бат.* расходнік. Я́дранец пад алешнікам расцець, такі кісленькі (Марозавічы, Б.-Каш.); Вось

нарвала ядранцу́, можа каро́ва паесць (Бялёў, Жытк.).

Я'ДРАНЫ *прым.* буйны. Толькі ж ужэ на старополіцы жыто сільно я́дранэе, а на пожні жыто слабое / моцны, гучны. Во я́драны голас, аж у вушах звініць (Глінішча, Хойн.).

ЯЖА́ЧЫ *прым.* вожыкавы. Мы бачылі яжа́чы вывадак (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* яжы́ны.

ЯЖЫ'НЫ *прым., тое, што яжа́чы.* Яжы́ная мордачка выглядвала з-пад калёс (Баравікі, Светл.); Мы ўсе ўбачылі яжы́ны след (Забалоцце, Раг.); Наверна, яжы́ная нара тут была (Марозавічы, Б.-Каш.).

ЯЖЫ'ХА (ЯЖЫ'ЦА) *ж., заал.* самка вожыка. Яжы́ха ўжо прывыкла да нас, малако п'е (Ямпаль, Рэч.; Марозавічы. Б.-Каш.); У мене адзін год яжы́ха цэлую зіму жыла, дык нігдзе мыш ні шалахнулась (Аравічы, Хойн.; Бабовічы, Гом.). Яжы́ха з яжанятамі пераходзілі дарогу (Забалацце, Раг.; Дубраўка, Добр.; Баравікі, Светл.; Кароткавічы, Жлоб.; Халочча, Чач.); То яжы́ца мабуль була, бо не бегла ад нары (Усох. Буда, Добр.).

Я'ЗВА *ж.* нара *(лісы)*. Ліса ў я́зву ўбегла (Каранёўка, Гом.); А места, дзе адпачывае ліса, мы называем я́звай (Юравічы, Калінк.).

Я'ЗВАВІК *м., бат.* пералёт. Кажуць, што я́звавік парáць тогды, як чоловек язвою хворы, і п'юць (Падворак, Лельч.).

ЯЗВІНА́ *ж.* поле *(неўрадлівае)*. Толькі адзін бульняк рос на язвіне́ (Пагоннае, Хойн.).

ЯЗДО́ВЫ *м.* фурман. А вунь і яздо́вы па малако едзе (Аравічы, Хойн.); У нас у сяле чоловек мо дзесяць яздо́вых (Стадолічы, Лельч.); Трэбо яздо́вага папрасіць, хай бы мукі падкінуў (Глінішча, Хойн.).

Я'ЗЫК I *м., спец.* верхняя рухомая частка церніцы. Танкаваты язы́к, трэбо каб цясней зажымаў лён. Хучэй церціся будзе (Юравічы Калінк.); Надаедае язы́к той паднімаць ды апускаць (Холмеч, Рэч.).

ЯЗЫ'К II *м., бат.* кактус. Язы́к цвіце вельмі прыгожа (Саўгасная, Б.-Каш.).

ЯЗЫКАВА́ТЫ *прым.* языкаты. Языкава́ты Андросенка — з мухі слана зробіць (Іскра, Чач.). Ну і языкава́тая ж ты, цётко Насцё (Стадолічы, Лельч.).

ЯЗЫ'ЧНІЦА *ж.* пляткарка. О, гэтая язы́чніца толькі і брэша (Карма, Добр.).

ЯЗЫ'ЧНЫ *прым., тое, што* языкава́ты. От і язы́чны

твой бацько, не пройдзе, каб кого ні зачапіць (Стадолічы, Лельч.).

ЯЙЦЭ *н.* яйка. Аблупі мне яйцэ́ (Глінішча, Хойн.); З'еж адно яйцэ́ (Ламавічы, Акцябр.).

ЯКАРО́К *м., рыб.* частка вуды. Цяпер харошыя якаркі прадаюць (Юравічы, Калінк.).

Я́ЛАВАЕ *прым., с.-г.* абложны. Зямля Сухаўшчыны — я́лавае поле (Майскае, Жлоб.); Мне бацька крычыць: «Ідзі на я́лавае» (Піркі, Браг.). *Параўн.* я́лавізна, я́лавіна II.

Я́ЛАВІЗНА *ж., с.-г.* аблога. У гэтым гаду кусок я́лавізны засею памідорамі (Чкалава, Гом.). *Параўн.* я́лавіна́ II.

ЯЛАВІ́К *м., заал.* крыжадзюб. Ялаві́к ёсць насенне яловых і сасновых дрэў (Насовічы, Добр.).

Я́ЛАВІНА I *ж.* ялавічына. Цяпер і я́лавіна ў нас ёсць (Іванаўка, Хойн.); Ён з апетытам аплятаў я́лавіну (Амелькаўшчына, Хойн.); Ялавіна́ зусім свежая, можна і купіць (Бабічы, Чач.). *Параўн.* я́лавіча.

Я́ЛАВІНА́ II *ж., тое, што* я́лавізна. Ні раз ня сеілі на ём, на я́лавіні (Ліцвінавічы, Чач.); Вельмі добрае про́со було на ялавіне́, каля бору (Пагоннае, Хойн.).

ЯЛАВІ́ЧА (ЯЛАВІ́ЧНА) *ж., тое, што* я́лавіна́ I. Цяпер у нас свініна, а ялаві́чу купляем у го́радзі (Дубраўка, Добр.); Прадайце мне ялаві́чны (Усох. Буда, Добр.).

Я́ЛЕНЕЦ *м., бат.* ядловец. Каля хвермы я́ленец саўсім высах (Бабічы, Чач.).

ЯЛЕ́Ц *м., бат.* хвойнік. Яле́ц ужо стаў ладненькі (Дарашэвічы, Петр.); Яле́ц у нас е, не богато (Стадолічы, Лельч.).

ЯЛЕ́ЦКАЯ *ж.* танец. Пайшлі яле́цкую патанцуем (Бабічы, Чач.).

ЯЛО́НАВЫ *прым.* нейлонавы. Мая дзеўка яло́навую кохту ўкупіла сабе (Грабава, Жытк.).

ЯЛУ́К *м., аг., зневаж.* дурань. Ялу́к ён (Ліскі, Рэч).

Я́МАЧКА *ж.* вочка. Я́мачка — гэта вочка на моркве (Пярэдзелка, Лоеўск.); На моркве богато я́мочак (Багуцічы, Ельск.); З глыбокімі я́мачкамі дрэнна бульбу чысціць (Забалоцце, Раг.); А гэтая морквіна ўся на я́мачках (Даманавічы, Калінк.).

Я́ПА *ж.* 1. грыжа *(у жывёлы)*. Такая ўжо я́па ў каня была (Забалоцце, Раг.); Харошая карова, да я́па на баку (Перароў, Жытк.). У маёй каровы вот такая я́па

адвісла (Дуброва, Петр.); Той волік, што япа на баку (Вышалаў, Петр.+Маканавічы, Рэч.).

2. нараст *(на ствале дрэва)*. Чысты ствол, а збоку нарасць — япа, як у чалавека грыжа (Багуцічы, Ельск); У нас япы сустракаюцца на ствале дрэва з больш моцнай драўнінай (Аравічы, Хойн.+Ламавічы, Акц.).

Я'РА *ж., с.-г.* збожжа *(яравое)*. Будуць сеяць яру (Верасніца, Жытк.). *Параўн.* ярыца.

Я'РАЙ *м., бат.* аер. Я'рай расце на балоце (Холмеч. Рэч.); Рвуць ярай і ядуць. На тройцу ярай еты на вокны ставяць (Хізы, Ветк.); Корань яраю — ад жалудка (Баравікі, Светл.); Вон яраю колькі хочаш (Н. Баршчоўка, Лоеўск.). *Параўн.* ярей, ярый.

ЯРБІНА *ж., бат.* рабіна. Бувала ў Максімавых пад ярбінаю как сабіроцца хлопцаў, дзевак (Баравікі, Светл.).

Я'РЕЙ *м., бат., тое, што* ярай. Я'рей на тройцу сцелюць па палам (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* ярый.

ЯРЕ́М *м.* ярмо. Пойшла да суседзей позычыць ярём (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* яро́м.

Я'РКУШНЫ: Я'РКУШНАЯ НЯДЗЕЛЯ *ж. рэл.* першы тыдзень пасля вялікадня. У аўторак на яркушнай нідзелі будзе радуніца (Бабовічы, Гом.).

Я'РМАЛАК *м.* кірмаш. Я'рмалак ужо кончыўся (Марозавічы, Б.-Каш.); Заўтра у Чачэрск на ярмалак многа хто сабіраецца (Малынічы, Чач.); О цэ ж не такі ярмалак! Я бачыла такі багаты (Грушаўка, Нар.); На свята адкрывалі ярмалак (Ручаёўка, Лоеўск.); Ну што толькі на ярмалкі ня навозілі. Што хочыш, тоя і возьмяш (Быч, Карм.); У нас 25 чысла ярмалак у Юравічах (Глінішча, Хойн.). *Параўн.* ярмалка.

Я'РМАЛКА *ж., тое, што* ярмалак. Заўтра ярмалка ў Церахоўцы (Дубраўка, Добр.); Колісь гаварылі ярмалка, а цяпер базар (Баравікі, Светл.); От сённі Пятро. У Лоеві ярмалка (Ручаёўка, Лоеўск.); На ярмалку едзе багата людзей (Кароткавічы, Жлоб.); На ярмалцы ўсё ё (Хізы, Ветк.); Паеду на ярмалку, трэбо кароўку купіць (Юравічы, Калінк.); Калі празнік, дык ярмалка добрая (Усох. Буда, Добр.).

ЯРО́М *м., тое, што* ярем. Яро́м — ета вупраж для вала (Чалюшчавічы, Петр.).

ЯРУ'ШКА *ж., с.-г.* пшаніца *(яравая)*. Саўгас пасеяў яру́шку (Багданавічы, Карм.).

Я'РХА *ж., с.-г.* арфа. В ярху сыплюць зерно ведром

(Верасніца, Жытк.); Цяпер зерне часцяць я́рхамі (Дарашэвічы, Петр.); Я′рхаю зярно чысцяць (Ламавічы, Акц.).

ЯРХОВА́ЦЬ *незак.* веяць. Ходзі ярхова́ць зерно (Верасніца, Жытк.).

Я′РЫ *м.* сабака *(хуткі на бег)*. Я′ры доўгі час ганяўся за ваўком (Бабічы, Чач.).

Я′РЫЙ *м., бат., тое, што* я́рай. Я′рый вельмі пахучы, нападобе рагазы (Пярэдзелка, Лоеўск.); Я′рый на вокны ставяць перад Тройцай (Бабовічы, Гом.). *Параўн.* я́рей.

ЯРЫ′ННЫЯ: ЯРЫ′ННЫЯ ПЕ́СНІ *толькі мн.* абрадавыя песні *(у час уборкі ярыны)*. А я цяперака толькі ярынныя песні помню (Усох. Буда, Добр.).

Я′РЫЦА *ж., с.-г., тое, што* я́ра. Гэтай вясной пасеялі многа я́рыцы (Багуцічы, Ельск.); Ужо я́рыца ўзышла (Асарэвічы, Браг.).

ЯРЭ′МЧЫК *м.* ярмо *(на аднаго вала)*. На аднаго вала трэба ярэ́мчык, а на двух — ярмо (Глінішча, Хойн.).

ЯСЁ′НКА *ж.* паліто *(асеннее)*. Ну і ясёнка ж у цябе, як у гарацкога чалавека, кругом абшыта красіва (Печышчы, Светл.).

ЯСКО́ЛКА *ж., заал.* ластаўка. А, яско́лкі гэтае вяздзе хапае (Бялёў, Жытк.).

Я′СЛІ *толькі мн.* драбіны. Я′слі вунь там стаяць (Грабо, Жытк.); Постаў я́слі да злазь на гору, возьмі ейец (Бярэзнікі, Жытк.).

ЯСО́КА *ж., бат.* я́сакар. Па шляху ясо́ка расце. Мяканькая воўна в ясо́кі ляціць (Дарашэвічы, Петр.).

Я′ТРАСЬ *м., мед.* сып, чырвань *(вакол раны)*. Вакол раны ў ёго быў я́трась (Забалоцце, Раг.); Калі на ліцэ раскідае дале і красныя прышчыкі, то кажуць, што ето я́трась (Глінішча, Хойн.); І я́трась кажуць тоже, адна ранка зажывае, а другая паяўляецца (Ламавічы, Акц.).

ЯЎДО́КІ (ЯЎДО́ХІ) *толькі мн., рэл.* свята. Яўдо́кі — рэлігійнае свята, якое спраўлялі ў першы дзень вясны (Хутар, Светл.); Яўдо́кі — валу вады па бокі (Дубраўка, Добр.; Гарывада, Рэч.); Яўдо́кі — першы дзень посту (Крыўск, Б.-Каш.; Ліпнякі, Лоеўск.); Хто не прадзе на Яўдо́кі, у того голыя бокі (Багуцічы, Ельск.+Усох. Буда, Добр.; Юравічы, Калінк.). *Параўн.* Яўдо́кія.

ЯЎДО́КІЯ *ж., тое, што* яўдо́кі. Яўдо́кія гэта свята першага марта (Беразнякі, Петр.; Гармавічы, Жлоб.).

## ЗМЕСТ

### I. ЛЕКСІКА І ФРАЗЕАЛОГІЯ



### II. АРФАГРАФІЯ І ГРАМАТЫКА



### III. ПАРАЎНАЛЬНАЕ МОВАЗНАЎСТВА



### IV. ЛЕКСІКАГРАФІЯ